# СТАТУТ — STATUTE



Сьвятыня ў мястэчку Моталь
The Church in town of Motal

# С Т А Т У Т
# БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ



Маці Боская Адзігітрыя Нявянучая Кветка
*Абраз узяты з кнігі Іканапіс Беларусі*
*Менск, Беларусь, 1994, абраз нумар 13.*

# СТАТУТ
# БЕЛАРУСКАЕЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

Другое выданьне



Еўфрасіньніеўскі крыж

Выданьне Кансісторыі БАПЦ

Таронта — 1997

# STATUTE
# OF THE BELARUSAN AUTOCEPHALOUS ORTHODOX CHURCH

**Second edition**



Cross of Eufrasinnia of Polatzak

**Published by Consistory of BAOC**

**Toronto, On. Canada — 1997**

# СТАТУТ
# БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

## I. НАЗОЎ

1. Назоў Царквы «Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква», у скароце «БАПЦ».

## II. АГУЛЬНЫЯ АСНОВЫ

2. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква вядзе свой пачатак з X веку нашае эры; заснаваная ў старадаўным Полацкім Княстве й асьвечаная Сьв. Еўфрасініяй Полацкай й Сьв. Кірылам Тураўскім. Яна была кананічна аформлена праз Усяленскую Патрыярхію ў 1291-1316 гадох у Вялікім Княстве Літоўскім (Беларускім). Па страце самастойнасьці ў XVIII веку была яна адноўленая 23 ліпеня 1922 году й паўторна — 2 верасьня 1942 году на Саборах у Менску, як Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Адроджаная на чужыне 5 чэрвеня 1948 году Саборам у Канстанцыі ў Нямеччыне і аформлена 20 сьнежня 1949 году Саборам Япіскапаў БАПЦ, становіць неадлучную частку Адзінай Сьвятой Усяленскай Апостальскай Праваслаўнай Царквы, Галава якой — Сам Найвышэйшы Пастыр Госпад наш Ісус Хрыстос.

3. БАПЦ, трымаючыся догматаў і правілаў Сьвятой Усяленскай Апостальскай Праваслаўнай Царквы, у справах свайго нутранога жыцьця кіруецца самастойна на роўных правох з усімі іншымі Аўтакефальнымі Праваслаўнымі Цэрквамі, незалежна ад якой-небудзь вонкавай, духоўнай ці сьвецкай, улады.

4. БАПЦ вядзе сваё жыцьцё й кіруе ім паводле:

а). Сьвятога Пісьма;

б). Сьвятых Традыцыяў Царквы;

в). Правілаў Сьвятых Апосталаў (у ліку 85), 7-мі Ўсяленскіх Сабораў (333 правілы), 10-ці Памесных Сабораў (334 правілы), правілаў Сьвятых Бацькоў — вызнаных Сьвятою Ўсяленскаю Апостальскаю Праваслаўнаю

# STATUTE
# OF THE BELARUSAN AUTOCEPHALOUS ORTHODOX CHURCH

## I. NAME

1. The name of the Church is "The Belarusan Autocephalous Orthodox Church", abbreviated "BAOC".

## II. GENERAL PRINCIPLES

2. The Belarusan Autocephalous Orthodox Church goes back to the 10th century A.D. when it was founded in the ancient Dukedom of Polatsk and sanctified through Saint Euphrosyne of Polatsk and Saint Cyril of Turau. The Church was canonically instituted in the former Grand Dukedom of Lithuania (Belarus) by the Ecumenical Patriarchate between 1291 - 1316. The Church's independence was lost in the 18th century but was restored on July 23, 1922 and again on September 2, 1942 during two General Conventions held in Miensk, at which time the name was reaffirmed as the Belarusan Autocephalous Orthodox Church. The Church was reborn in exile on June 5, 1948, at a Convention held in Constance, Germany and formally confirmed by the Council of Bishops of the BAOC on December 20, 1949. The BAOC constitutes an integral part of One Holy Ecumenical Apostolic Orthodox Church, headed by the highest Shepherd, Our Lord Jesus Christ.

3. Although adhering strictly to the Dogmas and Canons of the Holy Ecumenical Apostolic Orthodox Church, the BAOC is a self-governing body with regard to its internal affairs and is on equal footing with all other Autocephalous Orthodox Churches and is independent from any external ecclesiastical or secular authority.

4. In the conduct of its daily life the BAOC upholds the:

(a) Holy Scriptures;

(b) Holy Traditions of the Church;

(c) Canons of the Holy Apostles (85 rules); Rules of the 7 Ecumenical Councils (333 rules); Rules of the 10 Local Councils (334 rules); Rules of the Holy Fathers of the Church recognized by the Holy Ecumenical Orthodox

Царквою й царкоўных правілаў — якія кранаюць Сьвятыя Божыя службы ды манастырскае жыцьцё;

г). Правілаў гэтага статуту.

д). Пастановаў Сабораў БАПЦ

5. Урадавая мова БАПЦ — беларуская, а ў вонкавых дачыненьнях — мова тае краіны, у якой частка гэтае Царквы знаходзіцца.

## III. МЭТЫ

6. Мэты БАПЦ:

а). Даць належную духовую й рэлігійную апеку праваслаўным беларусам па ўсім сьвеце;

б). Пашыраць Хрыстовую навуку й мараль, ды зьдзяйсьняць ідэі хрысьціянскае ўзаемапомачы сярод сваіх вернікаў;

в). Арганізаваць усіх праваслаўных беларусаў у адну цэласьць;

г). Захаваць у непарушнай форме догматы веры й правілы Праваслаўнай Царквы ды беларускія царкоўныя традыцыі;

д). Падтрымоўваць сямейную форму жыцьця — аснову здаровага грамадзтва, зьвяртаючы пры гэтым асаблівую ўвагу на падрастаючую моладзь.

7. Дзеля ажыцяўленьня сказанага ў артыкуле 6-ым гэтага статуту, БАПЦ праводзіць сваю арганізацыйную дзейнасьць наступным спосабам:

а). Арганізуе Япархіі;

б). Засноўвае пры япархіях вышэйшыя школы й курсы для кандыдатаў на сьвятароў і дзякоў, а пры парафіях — нядзельныя школы;

в). Арганізуе пры япархіях манастыры, парафіі, місіі, прадстаўніцтвы;

Church and the Ecclesiastic Regulations concerning Holy Services and monastic life;

(g) Regulations of these Statutes;

(h) Decisions of General Conventions of the BAOC.

5. Belarusan is the official language within the BAOC, however, the language of the host country where a particular part of the BAOC is located is to be used in its external relations.

## III. THE PURPOSE

6. The aims of the BAOC are:

(a) To provide proper spiritual and religious guardianship for orthodox Belarusans throughout the world;

b). To spread Christian teaching and morality; to implement the ideas of Christian mutual assistance among believers;

c). To organize all orthodox Belarusans into one body (unit);

d). To preserve: in their original form, the Dogmas of Faith and the Canons of the Holy Ecumenical Orthodox Church as well as the old Byelorussian Church traditions;

(e) To uphold the family form of life as the foundation of a healthy society, by paying special attention to the upbringing of the young.

7. In order to carry out the aims enumerated in paragraph 6 of this statute, the BAOC must:

a). organize Dioceses,

b). establish within those Dioceses schools of higher learning, and courses for priestly and deaconal candidates as well as Sunday schools within each Parish.

c). organize within the dioceses monasteries, parishes, missions, and agencies;

г). Закладае пры япархіях дабрачынныя інстытуцыі;

д). Купляе зямлю, купляе альбо будуе будынкі на патрэбы царкоўна-рэлігійнага жыцьця

8. Згодна з Божым Словам і царкоўнай традыцыяй ды на падставе царкоўных правілаў, адзначаных у артыкуле 4-ым гэтага статуту, БАПЦ прыймае ў сваю юрысдыкцыю ўсіх тых, хто зьвяртаецца да Яе й шукае духовай апекі.

9. Прылучэньне да БАПЦ іншай царкоўнай ці рэлігійнай праваслаўнай установы, якая мела ўласныя нутраныя правілы, праводзіць Першы Ярарх згодна з пастановамі Сабору Япіскапаў БАПЦ у гэтай справе, і з захаваньнем царкоўных правілаў.

## IV. СЬВЯТАРСТВА

10. Япіскапы БАПЦ пастаўляюць япіскапаў, ярэяў і дыяканаў — пасьля праверкі іхнае набожнасьці, непахіснасьці ў веры й маральнай годнасьці. Япіскап, ярэй ці дыякан ня мае права самавольна пакідаць пасад, на які ён быў прызначаны ці пастаўлены. Калі б у сілу абставін яму неабходна было гэта зрабіць, ён мусіць атрымаць адпускную грамату ад сваіх вышэйшых уладаў.

### А. ЯПІСКАП

11. Усе япіскапы БАПЦ — роўныя сабе ў сане. Кандыдатаў на япіскапаў могуць выстаўляць: Сабор Япіскапаў і Япархіяльны Сабор. Кожны кандыдат мае быць зацьверджаны Радай БАПЦ і адказваць усім правілам Усяленскай Праваслаўнай Царквы.

12. Ніводзін зь япіскапаў БАПЦ ня робіць нічога агульна-царкоўнага без паразуменьня й згоды зь іншымі япіскапамі БАПЦ. Ніводзін япіскап ня мае права кіраўнічага ў Япархіі іншага япіскапа, — толькі на просьбу апошняга можа яму памагчы.

13. Ніводзін япіскап БАПЦ на ўласную ініцыятыву, бяз прыхільнай пастановы Сабору Япіскапаў БАПЦ, ня мае права прыймаць удзел у хіратоніі япіскапа для іншае юрысдыкцыі. Ніводзін япіскап БАПЦ на ўласную ініцыятыву, бяз згоды зь іншымі япіскапамі БАПЦ, ня мае права пасьвячаць асобаў у ярэі ці дыяканы для юрысдыкцыі не БАПЦ.

d). organize agencies for welfare purposes within the Dioceses;

e). purchase land, purchase or erect buildings for Church-related purposes.

8. The BAOC accepts into her jurisdiction all those seeking spiritual protection as described in paragraph 4 of this Statute, and in accord with the Word of God and the Traditions and the Rules of the Church.

9. Incorporation into the BAOC of any other Orthodox Church or religious unit, which originally had its own internal regulations, is accomplished by the First Hierarch of the BAOC in accordance with the decisions of the Council of Bishops of the BAOC, preserving Church rules.

## IV. THE CLERGY

10. Bishops of the BAOC consecrate new Bishops and ordain priests and deacons, after examining their piety, steadfastness in faith, and moral fitness. No Bishop, Priest, or Deacon has the right to leave, of his own volition, a post to which he has been appointed. If circumstances compel him to do so, he must obtain a Certificate of Release from his superiors.

### A. THE BISHOP

11. All Bishops in the BAOC are equal in rank. Candidates for the position of Bishop can be proposed by the Council of Bishops and by Diocesan Convention. Each candidate must be approved by the Council of the BAOC and must meet the Rules of the Holy Ecumenical Orthodox Church.

12. No Bishop of the BAOC can do anything which affects the church as a whole without consultation and agreement from all other Bishops. No Bishop has any right of leadership in the Diocese of another Bishop unless the latter has explicitly asked for help.

13. None of the Bishops of the BAOC can participate in the consecration of a Bishop, for jurisdiction other than the BAOC, without the approval of the Council of Bishops of the BAOC. No Bishop of the BAOC has the right to ordain Priests or Deacons for jurisdiction other than the BAOC without agreement on the part of other Bishops of the BAOC.

## Б. ЯПІСКАП — ПЕРШЫ ЯРАРХ

14. На чале БАПЦ, згодна з 34-ым Апостальскім Правілам, стаіць Першы Ярарх, які выбіраецца на Саборы БАПЦ. Першы Ярарх кіруе БАПЦаркявою згодна з правіламі гэтага статуту і ён ёсьць адначасна Кіраўнічым Япіскапам свае Япархіі, а калі вымагаюць абставіны, ён можа мець сабе Вікарнага Япіскапа. Ягоны поўны тытул: «ЯГО МІЛАСЬЦЬ НАЙПАЧАСЬНЕЙШЫ (імя) МІТРАПАЛІТ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ».

15. Да правоў і абявазкаў Першага Ярарха належаць:

а). Нагляд агульнага парадку ў БАПЦ і прадстаўляньне яе на вонкі;

б). Скліканьне Сабору БАПЦ, Рады БАПЦ і Сабору Япіскапаў, якімі кіруе асабіста, альбо вызначае на гэта япіскапа;

в). Прыйманьне заяваў сьвятароў з іншых Праваслаўных Цэркваў, дзеля прыйма іх у юрысдыкцыю БАПЦ;

г). Кіраваньне стаўрапігіяльнымі манастырамі;

д). Падпісваньне ўзнагародных граматаў і выдаваньне пастырскіх пасланьняў ад сябе ці супольна зь іншымі япіскапамі БАПЦ;

е). Дбаньне пра сьв. Міра й сьв. Антымінсы;

ё). Разгляд скаргаў на ярархаў і наданьне ім належнага ходу

ж). Брацкія парады Япіскапам.

16. Калі Рада БАПЦ вырашыць на сваім паседжаньні 2/3 галасоў, што Першы Ярарх ня ў стане выконваць сваіх абавязкаў, ці ў выпадку ягонай сьмерці, тады абавязкі Першага Ярарха да часу скліканьня Сабору БАПЦ выконвае ягоны заступнік.

## B. BISHOP — THE PRIMATE

**14**. In accordance with Rule 34 of the Apostolic Rules, the head of the BAOC is the Primate, who is elected by the General Convention of the BAOC. The Primate leads the BAOC in accordance with the rules of these statutes while occupying the post of governing Bishop in his Diocese at the same time. When circumstances require it, he can have at his side a Vicar Bishop. The full title of the Primate is: "HIS EMINENCE MOST HONORABLE ( the name ) METROPOLITAN OF THE BELARUSAN AUTOCEPHALOUS ORTHODOX CHURCH".

**15**. The rights and duties of the Primate are as follows:

a). Supervision over the general order within the BAOC and its representation in external affairs;

b). The convocation of the General Convention of the BAOC, of the Council of BAOC, and the Council of Bishops, at all of which he presides in person or appoints another Bishop;

c). Receipt of applications from the Priests of other Orthodox Churches seeking acceptance into the BAOC jurisdiction;

d) The supervision over the stavropigial monasteries;

e) Signing of honorary diplomas and issuing of pastoral letters in his own name or with other Bishops of the BAOC;

f) Care of the Holy Myrrh and the Holy Antimensia;

g) Consideration of complaints against Hierarchs and the initiation of due process regarding them;

h) Fraternal advice to Bishops.

**16**. In the event the Council of the BAOC decides in its meeting by 2/3 of the votes of its members that the Primate is unable to discharge his duties, or in the event of his passing away, his Deputy takes over as Acting Primate until such time that the General Convention of the BAOC is convened.

## В. ЯПІСКАП — КІРУЮЧЫ ЯПАРХІЯЙ

17. Сабор Япіскапаў вызначае архірэя на Кіраўнічага Япархіі; які ачольвае Япархіяльную Управу й кіруе дзейнасьцяй Япархіі. Ён можа мець пры сабе Вікарнага Япіскапа, прызначанага Саборам Япіскапаў БАПЦ. У выпадку звальненьня Катэдры праз Кіраўнічага Япіскапа Япархіяй кіруе Вікарны Япіскап, а пры адсутнасьці апошняга — япіскап, якога часова прызначае Першы Ярарх БАПЦ.

18. Да правоў і абавязкаў Кіраўнічага Япіскапа належыць кіраваньне Япархіяй ува ўсіх галінах яе жыцьця:

а). Вызначаць і звальняць кіраўнічых манастыроў, парафіяў і місіяў;

б). У выпадку патрэбы вызначаць духоўную асобу на старшынства паседжаньняў Япархіяльнага Сабору ці Япархіяльнай Управы;

в). Сачыць за маральным станам клеру й вернікаў, і ў выпадку патрэбы, накладаць адміністрацыйныя альбо духоўныя пакараньні за правіны;

г). Рэгулярна наведваць манастыры й парафіі свае Япархіі.

19. Кіраўнічы Япіскап можа выехаць паза межы свае Япархіі толькі на чатырнаццаць дзён, а калі неабходна яму выехаць на даўжэйшы час, мае атрымаць дазвол ад Першага Ярарха.

## Г. ЯПІСКАП — ВІКАРНЫ

20. У адміністрацыйных справах Вікарны Япіскап ёсьць падпарадкаваным свайму кіраўнічаму.

## Д. ЯРЭЙ І ДЫЯКАН

21. Кандыдата на ярэя ці дыякана падае Япархіяльная Ўправа альбо Парафіяльная Рада, паведамляючы пра свой выбар Кіраўнічага Япіскапа свае Япархіі, а кандыдат падае пісьмовую просьбу Япіскапу й, пры рукапалажэньні яго на ярэя ці дыякана, падпісвае й прылюдна складае ў сьвятыні прысягу япіскапу наступнага зьместу:

## C. THE GOVERNING BISHOP OF THE DIOCESE

17. The Council of Bishops of the BAOC appoints the Governing Bishop for the Diocese; he heads the Diocesan Administrative Board and guides the activities of the Diocese. He may have by his side a Vicar Bishop appointed by the BAOC Council of Bishops. In the event the office of the Governing Bishop becomes vacant, the Vicar Bishop takes over the leadership of the Diocese; otherwise a Bishop is temporarily appointed by the Primate of the BAOC.

18. Rights and duties of the Governing Bishop are grounded in the administration of the Diocese:

a). To designate and discharge heads of Monasteries, Parishes, and Missions;

b). To designate, when the need arises, a clergyman to chair the sessions of the Diocesan Council or the Diocesan Administrative Board;

c). To follow up the state of morals of the clergy and believers and, when needed, to impose administrative or spiritual punishments for transgressions;

d). To pay regular visits to the Monasteries and Parishes of his Diocese.

19. The governing Bishop may not leave the confines of his Diocese for more than 14 days. When the need arises for a longer trip, permission must be obtained from the Primate of the BAOC.

## D. THE VICAR BISHOP

20. In administrative affairs, the Vicar Bishop is subordinate to the Governing Bishop.

## E. THE PRIEST AND DEACON

21. A candidate for the position of priest or deacon may be nominated by the Diocesan Administrative Board or the Parish Council which notify the Governing Bishop of the Diocese of their selection. The candidate submits to the Bishop a written application and, while being ordained as a Priest or Deacon, signs and publicly in the Church takes before the Bishop the following oath:

## ПРЫСЯГА

У ІМЯ НАЙСЬВЯЦЕЙШАЕ ТРОЙЦЫ, БОГА АЙЦА, БОГА СЫНА, БОГА ДУХА СЬВЯТОГА, Я, З ВОЛІ БОЖАЕ ПАКОРНЫ СЛУГА (імя) ПРЫСЯГАЮ ПЕРАД ВАМІ НАЙПАЧАСЬНЕЙШЫ ЎЛАДЫКА (імя) І Ў ПРЫСУТНАСЬЦІ НАРОДУ ПРАД ГОСПАДАМ НАШЫМ ІСУСАМ ХРЫСТОМ НА СЬВЯТОЕ ДАБРАВЕСЬЦЕ Й СЬВЯТЫ КРЫЖ, ШТО БУДУ РУПІЦЦА Й НАВУЧАЦЬ ПРАВАСЛАЎНАЙ ВЕРЫ ДАРУЧАНЫХ МНЕ ВЕРНІКАЎ; БУДУ З ПАВАГАЙ І НАБОЖНАСЬЦЮ ВЫКОНВАЦЬ БАГАСЛУЖБЫ УСЯЛЕНСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ; НЕ ПАРУШУ ДОГМАТАЎ ЯЕ, А БУДУ ПРЫТРЫМОЎВАЦЦА ЦАРКОЎНЫХ ПРАВІЛАЎ І СТАТУТУ БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ; БУДУ ВЫКОНВАЦЬ ПАСТАНОВЫ ЦАРКОЎНЫХ ЎЛАДАЎ БАПЦ І АГУЛЬНЫХ СХОДАЎ БАПЦ, ДЫ НІЧОГА ШКОДНАГА ДЛЯ БАПЦ, АНІ ДЛЯ ПАРАФІІ, НЯ БУДУ ЧЫНІЦЬ. ПАМАЖЫ МНЕ БОЖА!

22. Ярэй альбо дыякан:

а). які пераходзіць зь іншае Праваслаўнае Царквы ў юрысдыкцыю БАПЦ, мае злажыц пісьмовую заяву й прысягу, адзначаную ў артыкуле 21-ым гэтага статуту, і мусіць мець адпускную пасьведку ад свайго япіскапа;

б). які пераходзіць з аднае япархіі БАПЦ ў другую — патрбуе толькі адпускную пасьведку ад свайго япіскапа.

Япіскап, які прыняў яго, паведамляе пра гэта Кансісторыю БАПЦ.

23. Ярэй альбо дыякан, які пераходзіць у юрысдыкцыю БАПЦ і ня можа выказацца адпускной альбо высьвячальнай пасьведкай, мае паклікацца на сьведчаньне двох сьвятароў БАПЦ, якія ведаюць яго ня менш трох гадоў і паручацца за яго, што ён сапраўды ярэй альбо дыякан.

24. Ярэй альбо дыякан, адзначаныя ў артыкулах 22-ім і 23-ім гэтага статуту, мае атрымаць ад япіскапа БАПЦ посьведку, што ён прыняты ў юрысдыкцыю БАПЦ; толькі тады ён лічыцца праўным сьвятаром БАПЦ.

25. Ярэй ня мае кіраўнічага права ў другой парафіі бяз ведама й згоды кіраўнічага тае парафіі.

## OATH

IN THE NAME OF THE MOST HOLY TRINITY — GOD THE FATHER, GOD THE SON, AND GOD THE HOLY SPIRIT — I, BY GOD'S WILL THE HUMBLE SERVANT, (the name), DO SWEAR BEFORE YOUR EXCELLENCY **(first name)** AND IN THE PRESENCE OF THE PEOPLE, BEFORE OUR LORD JESUS CHRIST, ON THE HOLY SCRIPTURE AND THE HOLY CROSS, THAT I WILL TAKE UTMOST CARE AND WILL TEACH BELIEVERS ASSIGNED TO ME THE PRINCIPLES OF OUR ORTHODOX FAITH, I WILL WITH DUE RESPECT AND PIETY CONDUCT HOLY SERVICES OF THE ECUMENICAL ORTHODOX CHURCH, I WILL NEVER VIOLATE ITS DOGMAS, I WILL OBSERVE CHURCH RULES AND REGULATIONS AND I WILL UPHOLD THE STATUTES OF THE BELARUSAN AUTOCEPHALOUS ORTHODOX CHURCH, I WILL NOT DO ANYTHING HARMFUL TO THE BAOC OR THE PARISH, SO HELP ME GOD!

**22.** Priest or Deacon:

a). who comes from another Orthodox Church into the jurisdiction of the BAOC must submit a written application and take the oath cited in paragraph 21 of these statutes, and he must be in possession of a certificate of release from his Bishop.

b). any Priest or Deacon who moves from one BAOC Diocese into another, must have a certificate of release.

The Bishop, who accepted him, notifies the Consistory of the BAOC.

**23.** Priest or Deacon who comes into the jurisdiction of the BAOC but is unable to present a certificate of release, or a certificate of ordination, may quote the testimony of two BAOC priests who have known him for at least three years and guarantee that he has been a priest or deacon.

**24.** Priest or Deacon, cited in paragraphs 22 and 23 of this statute, after being accepted into the BAOC jurisdiction must obtain a certificate from the BAOC Bishop to that effect; only then he is legally a Priest of the BAOC.

**25.** No Priest has any administrative right in a Parish other than **his own** without the knowledge and agreement of the head of that Parish.

### Е. ЯРЭЙ — КІРАЎНІЧЫ ПАРАФІІ

26. На чале парафіі стаіць сьвятар — Кіраўнічы Парафіі (настаяцель), прызначаны Кіраўнічым Япіскапам, у юрысдыкцыі якога гэтая парафія знаходзіцца. У парафіі можа быць некалькі ярэяў і дыяканаў і ўсе яны прызначаюцца Кіраўнічым Япіскапам ды падлягаюць Кіраўнічаму Парафіі. Кіраўнічы Парафіі поўнасьцю падпарадкаваны свайму япархіяльнаму Япіскапу, і апрача выконваньня багаслужбаў;

а). ён ёсьць духовым апякуном і дарадчыкам парафіянаў, настаўнікам Права (Закону) Божага;

б). ён вядзе мэтрычныя запісы хросту, шлюбу й сьмерці парафіянаў;

в). ён вядзе хроніку важнейшых падзеяў у парафіі.

Усе сувязі кіраўнічага парафіі з рэлігійнымі ўстановамі альбо парафіямі іншых юрысдыкцыйяў маюць праводзіцца толькі ў паразуменьні й за згодай Кіраўнійчага Япіскапа.

### Ё. ДЫЯКАН

27. Дыякан падпарадкоўваецца свайму кіраўнічаму парафіі.

### Ж. ПАДДЫЯКАН

28. Кандыдата на паддыякана падае кіраўнічы парафіі, а Япіскап падстрыгае яго на паддыякана. Паддыякан падлягае свайму Кіраўнічаму.

## V. ДАВЕРАНЫЯ

29. Афармленьне куплі ці продажы нярухомай маёмасьці, зямлі й будынкаў, праводзяць давераныя ня менш як тры асобы, калі болей, дык лік мусіць быць няпарны. Для афармленьня куплі маёмасьці ў карыстаньне Кансісторыі — давераных вызначае Кансісторыя; у карыстаньне Япархіі — назначае Япархіяльная Ўправа; у карыстаньне Парафіі — назначае Парафіяльная Рада. Яны могуць займаць іншыя пасады ў царкоўным жыцьці. Давераныя праводзяць куплю альбо продаж ад імя Кансісторыі, Япархіі альбо Парафіі, як адзначана ў артыкуле 114-ым гэтага статуту.

### F. HEAD OF THE PARISH

26. The Priest in charge of the Parish is the Head of the Parish appointed by the Governing Bishop of the Diocese in which the Parish is located. The Parish may have several Priests and Deacons, all appointed by the Governing Bishop and subject to the authority of the Head of the Parish. The Head of the Parish is fully subordinate to his Diocesan Bishop. In addition to conducting Holy services:

a). He is spiritual protector and advisor to his parishioners, a teacher of Holy Scriptures;

b). He maintains parish books and makes entries of current baptisms, weddings, or deaths of the parishioners;

c). He keeps a chronicle of important events in the parish.

All contacts by the Head of the Parish, with religious institutions and parishes of other jurisdictions can be conducted only with the consent of the Governing Bishop.

### G. THE DEACON

27. A Deacon is subject to the authority of the Head of the Parish.

### H. THE SUBDEACON

28. A candidate for Sub deacon is selected by the Head of the Parish and ordained by the Bishop. The Sub deacon is subject to the authority of the Head of the Parish.

## V. THE TRUSTEES

29. The purchase or disposition of church real estate / property, land and buildings is to be carried out by trustees, at least three persons, (if more than three the number must be odd). When property of the Consistory is involved, the latter appoints the trustees. In the Diocese, trustees are appointed by the Diocesan Administrative Board; in the Parish, they are appointed by the Parish Council. They may occupy other positions in the life of the Church. Trustees carry out transactions of purchase or sale in the name of the Consistory, Diocese or Parish, as stated in paragraph 114 of this statute.

## VI. ПАРАФІЯНІН

30. Асобы праваслаўнага веравызнаньня, пачынаючы з васем наццацілетніх, могуць быць паўнапраўнымі парафіянінамі парафіі БАПЦ, калі яны падпарадкоўваюцца духоўным уладам БАПЦ і выконваюць абавязкі, наложаныя на іх парафіяй. Асобы маладзейшыя за 18-летніх упісваюцца ў парафію праз праўных парафіян — бацькоў ці апякуноў.

31. Улік парафіянаў вядзецца паводле нормы:

а). Імя й прозьвішча, і сямейны стан;

б). Дата нараджэньня, хросту й шлюбу;

в). Дата прыняцьця ў парафію;

г). Дата сьмерці.

32. Кожны парафіянін павінен выконваць наступнае:

а). Наведваць Багаслужбы, трымацца правілаў посту, споведзі й Сьв. Прычасьця;

б). Працаваць для дабра парафіі й выхоўваць сваіх дзяцей у праваслаўнай веры.

33. Той, хто хоча быць парафіянінам, складае пісьмовую заяву на рукі Кіраўнічага Парафіі, і яна мае быць разгледжаная на чарговым паседжаньні Парафіяльнае Рады, але толькі ў прысутнасьці й згодзе кіраўнічага парафіі. Пастанова павінна быць запісана ў пратакол паседжаньня. Навапрыняты парафіянін мае права галасаваць на парафіяльных сходах з дня ягонага прыняцьця, але быць выбраным на які-небудзь пасад у парафіі ён можа толькі пасьля аднаго году належаньня да парафіі. Парафіянін, які перайшоў з другой парафіі БАПЦ і мае адпускную грамату ад кіраўнічага той парафіі, мае права галасаваць і быць выбраным на пасад у новай парафіі з дня ягонага прыняцьця, калі ён адказвае вымогам артыкулаў 32-ім і 109-ым гэтага статуту. Нікому не дазваляецца быць адначасна парафіянінам у дзьвюх парафіях БАПЦ, альбо іншай Царквы.

## VI. THE PARISHIONER

**30**. Persons, 18 years of age or older, of Orthodox Christian belief, can become full members of the BAOC parish, enjoying full rights with the stipulation that they obey BAOC authorities and fulfill obligations imposed on them by the parish. Persons under 18 years are entered in the Parish roster by adult parishioners (their parents or legal guardians).

**31**. The register of the Parishioners contains:

a). The first name and family name, family status;

b). Date of birth, date of baptism, date of marriage;

c). Date of acceptance into the Parish;

d). Date of death.

**32**. Each parishioner is required:

a). To attend Holy Services, keep the rules of fasting, go to Confession, and partake of Holy Communion;

b). Work for the good of the Parish and bring up their children in the spirit of the Orthodox faith.

**33**. Anyone wishing to become a Parishioner is required to submit a written application to the Head of the Parish. This application is to be considered at the next regular scheduled meeting of the Parish Council. This meeting can only take place with the consent and in the presence of the Parish Head. The decision of the council is entered into the minutes of the meeting. A newly accepted parishioner is entitled to vote at meetings of the Parish from the date of his acceptance. However, he must be a member of the Parish for a year before he can be elected to any Parish post. Any parishioner who transfers from another BAOC Parish and who has in his possession a Certificate of Release from the Head of his former Parish has the right to vote and can be elected to any Parish post from the date of his acceptance, provided he conforms to the standards enumerated in paragraphs 32 and 109 of these statutes. Membership in two BAOC Parishes or other Church at the same time is prohibited.

## А. Абавязкі паўнапраўнага парафіяніна

34. Паўнапраўным парафіянінам ёсьць той, хто:

а). ёсьць праваслаўнай веры, артыкул 30-ты гэтага статуту;

б). быў прыняты й належыць да парафіі, артыкулы 30-ты і 32-гі гэтага статуту;

в). рагулярна наведвае багаслужбы, спавядаецца, прыймае сьв. прычасьце, артыкул 32-гі гэтага статуту;

г). плаціць парафіяльныя складкі й не залягае больш, як адзін год, артыкул 94-ты гэтага статуту;

д). ня шкодзіць сваім гутаркамі для парафіі, артыкул 36-ты гэтага статуту;

е). падпарадкоўваецца царкоўным пастановам і духоўным уладам БАПЦ, артыкул 30-ты гэтага статуту;

ё). выконвае парафіяльныя абавязкі, артыкул 30-ты гэтага статуту.

## Б. Правы паўнапраўнага парафіяніна.

35. Кожны паўнапраўны парафіянін адзначаны ў артыкуле 34-ым гэтага статуту мае права:

а). галасаваць на парафіяльных сходах, артыкул 94-ты гэтага статуту;

б). быць выбраным дэлегатам на Сабор БАПЦ ці на Япархіяльны Сабор БАПЦ артыкул 39-ты. пункт б) і артыкул 74-ты гэтага статуту;

в). мець магчымасьць быць выбраным у адну з усіх управаў ці кантрольных кяамісіяў царкоўнай адміністрацыі;

г). мець упаўнаважаньне ад другога паўнапраўнага парафіяніна на галасаваньне ад ягонага імя;

A. Obligations of Regular Parishoner

**34.** A Rightful Parishoner is:

a). an orthodox, defined in paragraph 30 of this Statute;

b). was accepted and belongs to a Parish, paragraphs 30 and 32 of this Statute;

c). regularly attends the services, goes to Confession and partakes of Holy Communion, paragraph 32 of this Statute;

d). pays Parish dues and is not indebted more than a year, paragraph 94 of this Statute;

e). does not harm the Parish by irresponsible talking, paragraph 36 of this Statute

f). is subordinate to Church obligations and the BAOC authorities, paragraph 30 of this Statute;

g). fullfills their parishoner obligations, paragraph 30 of this Statute.

B. Rights of a Regular Parishoner

**35.** Each Rightful (full fledged) Parishoner as defined in paragraph 34 of this Statute has the right to:

a). vote at the Parish meetings, paragraph 94 of this Statute;

b). be elected a delegate to the Council of BAOC or the Diocese Council of BAOC, paragraph 39-b and paragraph 74 of this Statute;

c). Be elected into one of the Governing Bodies or Control Commitees of the Church administration;

d). to have the Power of attorney from another Rightful Parishoner to vote on his behalf;

д). Карыстацца з духоўнай апекі й з усіх рэлігійных трэбаў.

е). мае права прасіць і атрымаць інфармацыю пра стан касы парафіі ад Кантрольнай Каміціі парафіі на працягу аднаго месяца.

36. Выключэньне парафіян з парафіі праводзіцца на паседжаньні Парафіяльнай Рады, але толькі ў прысутнасьці й пры згодзе кіраўнічага парафіі, і яно можа стацца: за шкадлівую дзейнасьць для парафіі, супрацьхрысьціянскія ўчынкі й непадпарадкаваньне ўладам БАПЦ. Выключаны парафіянін мае права адклікацца да свайго кіраўнічага япіскапа, які вырашае справу канчальна.

## VII. САБОР БАПЦ

37. Сабор БАПЦ — найвышэйшая ўлада БАПЦ — склікаецца рэгулярна што сем гадоў. У выпадку патрэбы можа быць скліканы Надзвычайны Сабор БАПЦ. Сабор БАПЦ правамоцны, калі ў ім удзельнічае больш за палавіну ўсіх парафіяў БАПЦ і япіскапаў БАПЦ.

38. Сабор БАПЦ мае наступны засяг дзейнасьці:

а). Выбары Першага Ярарха, Рады БАПЦ і Кантрольнай Камісіі;

б). Зацьверджаньне зьменаў ці папravак да гэтага статуту;

в). Выносіць пастановы ў важных агульнацаркоўных справах БАПЦ.

39. Дэлегаты на Сабор БАПЦ:

а). Усё сьвятарства БАПЦ, апрача забароненых уладамі БАПЦ;

б). Два дэлегаты ад кожнага манастыра і ад кожнай парафіі;

в). Усе сябры Рады БАПЦ;

г). Рэдактар афіцыйнага выдавецтва пры Кансысторыі БАПЦ;

д). Дырэктары школаў пры япархіях.

e). to receive the spiritual care (support - treby) from Church Institution;

f). to receive information about the financial condition of the Parish from the Control Committee within one month.

36. Exclusion of a parishioner from the Parish is decided at a meeting of the Parish Council, but only in the presence and with the consent of the Parish Head. The exclusion can occur because of activity detrimental to the Parish, for anti-Christian deeds, and for insubordination to the BAOC authorities. The excluded parishioner has the right to appeal the decision to the Governing Bishop, whose decision is final.

## VII. GENERAL CONVENTION OF THE BAOC

37. The highest authority of the BAOC is the General Convention of the BAOC which is convened every seven years. Should a special need arise, a Special Convention can be held. At least half of all BAOC Parishes and Bishops must be present at the Convention to have a quorum.

38. Functions of the BAOC Convention include:

a). Election of the Primate of the BAOC, the Council of the BAOC, and the Control Board of the BAOC;

b). Making changes and amendments to this Statute;

c). Making decisions in all important areas which affect the BAOC as a whole.

39. Delegates to the General Convention of the BAOC include:

a). All BAOC Clergy in good standing;

b). Two elected delegates from each Monastery and Parish;

c). All members of the BAOC Council;

d). The editor of the official BAOC Consistory publication;

e). Principals of all Dicesan BAOC schools.

40. Кожная ўстанова — Рада БАПЦ, манастыры, парафіі — маюць выдаць за подпісам сваіх кіраўнічых сваім дэлегатам на Сабор пасьведку не пазьней як чатыры тыдні перад пачаткам Сабору. У посьведцы мае быць: імя, прозьвішча і адрас дэлегата. Кожнаму дэлегату, незалежна ад ягонага становішча ў БАПЦ, належыць толькі адзін голас на Саборы. Дэлегат, які ня можа прысутнічаць на Саборы, дае сваё ўпаважаньне другому дэлегату галасаваць ад яонага імя; адна асоба можа мець толькі два ўпаўнаважаньні.

41. Арганізацыйную й падгатаваўчую працу Сабору праводзіць Кансісторыя БАПЦ. За згодаю Першага Ярарха Кансісторыя вызначае дзень, час і месца Сабору. У паведамленьні пра сабор мае быць пададзены парадак дня, і яно мае быць выслана ўсім япархіяльным управам, парафіям, манастырам і ўстановам БАПЦ не пазьней як чатыры месяцы перад пачаткам Сабору. Парадак дня Сабору апрацоўвае Рада БАПЦ.

42. Рада БАПЦ загадзя вызначае мандатную камісію з трох асобаў — адзін сьвятар, і два міране — якая на пачатку Сабору правярае права-моцнасьць дэлегатаў і дае справаздачу Старшыні Сабору БАПЦ. Прыбыўшыя на Сабор дэлегаты павінны запісацца ў мандатнай камісіі ды выказацца посьведкай.

43. Рада БАПЦ вызначае Рэзалюцыйную Камісію з трох асоб, якая прыймае да прагляду ўсе прапановы перад тым, як яны маюць ісьці да разгляду на Саборы. Паседжаньні Рэзалюцыйнай Камісіі маюць быць адкрытымі, каб асобы, якія падалі прапановы, маглі абараняць іх.

44. Звычайна, адчыняе й кіруе Саборам Першы Ярарх, альбо вызначаная праз яго асоба-япіскап. У прэзыдыюм Сабору выбіраюцца тры япіскапы, два ярэі, чатыры міране й два пісары для запісу пратаколу. Кожная пастанова Сабору БАПЦ мае быць пацьверджана бальшынёй прысутных на Саборы БАПЦ япіскапаў. Прысутныя на Саборы япіскапы маюць права не зацьвердзіць пастановы Сабору, калі яна супярэчная з царкоўнымі правіламі (канонамі).

45. Усе справы на Саборы вырашаюцца звычайнай бальшынёй галасоў пры адкрытым галасаваньні праз падыманьне рук; але на жаданьне двух ці болей дэлегатаў галасаваньне мае быць тайным; у выпадку роўнасьці галасоў вырашае голас старшыні Сабору.

40. Each institution: the BAOC Council, Monasteries, and Parishes must provide their delegates with certificates signed by their heads not later than four weeks prior to the start of the Convention. The certificate must indicate the full name and address of the delegate. Each delegate is entitled to only one vote, regardless of his position within the BAOC. A delegate who is unable to be physically present at the Convention may authorize another delegate to vote for him at the Convention by proxy. A maximum of two proxy votes can be held by any delegate.

41. Preliminary organizational work for the Convention is done by the BAOC Consistory. With the consent of the Primate, the Consistory designates a date, time and place for the Convention. Notification of the Convention, which must include the proposed agenda, is to be sent to all BAOC institutions, Diocesan Administrative Boards, Parishes and Monasteries, no later then four months prior to the date of the Convention. The agenda for the BAOC Convention is prepared by the BAOC Council.

42. Before the Convention, the BAOC Council appoints a Mandate Commission, which consists of three persons: a priest and two laymen, whose function is to verify the legality of the delegates before the start of the Convention and to submit a report to the Chairman of the BAOC Convention. All delegates must register with the Mandate Commission and present their certificates upon arrival at the Convention.

43. The BAOC Council appoints a Commission for Resolutions. This Commission consists of three member delegates, to whose attention all proposed resolutions are submitted before they are brought before the plenum of the Convention. This Commission holds open meetings so that authors of the proposed resolutions can speak in their defense.

44. Generally, the Primate opens and chairs the Convention of the BAOC, however, he may delegate those functions to another Bishop. Three Bishops, two Priests, four laymen and two secretaries (whose job it is to prepare minutes) are elected to the Presidium. Each decision of the Convention requires confirmation by a majority of Bishops present at the Convention. The Bishops may withhold their confirmation if the decision contradicts the Church Canons.

45. All resolutions at the Convention are passed by a simple majority of votes, by a show of hands. However, if two or more delegates specifically request it, the vote may be by secret ballot. In the event of a tie, the vote of the Chairman of the Convention is decisive.

46. На час выбару Першага Ярарха БАПЦ старшынёю Сабору становіцца старшыня мандатнай камісіі, і галасаваньне мае быць тайным. Каб быць выбраным на Першага Ярарха, трэба атрымаць дзьве траціны галасоў прысутных на Саборы дэлегатаў і пры гэтым звычайную большыню галасоў прысутных на гэтым Саборы япіскапаў. Калі пры першым галасаваньні, пры трох ці болей кандыдатах, ніводзін зь іх не атрымае вымаганай большыні галасоў, тады кандытат з найменшым лікам галасоў адпадае, а галасаваньне паўтараецца гетак да канца. У выпадку, калі ніводзін з кандыдатаў не атрымае вымаганай большыні галасоў, тады справа йдзе на разгляд Сабору Япіскапаў, які й выбірае Першага Ярарха. Пасьля выбару Першага Ярарха папярэдні Старшыня Сабору прадаўжае кіраваць Саборам.

## VIII. РАДА БАПЦ

47. Да Рады БАПЦ належаць усе япіскапы БАПЦ. Апрача іх на Саборы БАПЦ выбіраўцца на сем гадоў сем сьвятароў (ярэі й дыяканы) і восем міранаў. Сябрамі Рады БАПЦ могуць быць толькі тыя асобы, якія праз тры гады былі й надалей застаюцца паўнапраўнымі парафіянамі парафіяў БАПЦ. Духоўная асоба пазбаўленая сану, альбо пад якой колечы забаронай свайго архірэя, аўтаматычна выключаецца з Рады БАПЦ. У выпадку выбыцьця сябры з Рады БАПЦ, ці адсутнасьці бяз уважлівых прычынаў на паседжаньнях Рады БАПЦ праз два гады — згодна з пастановай Рады БАПЦ, Першы Ярарх вызначае новага сябру на звольненае месца, які мае быць зацьверджаны Радай БАПЦ.

48. Да абавязкаў Рады БАПЦ належаць:

а). Нагляд над царкоўнай адміністрацыяй, гаспадаркай агульнай маёмасьці, фінансамі Царквы;

б). Разгляд і зацьверджаньне гадавога буджэту, апрацаванага Кансісторыяй;

в). Выдаваньне патрэбных кніжак, падручнікаў і часопісаў;

г. Канчальная пастанова ў справах куплі ці продажы будынку й зямлі япархіяй ці парафіяй;

д). Назначэньне Кансісторыі зь пяці асобаў — япіскап, два ярэі й два міране — спаміж сяброў Рады БАПЦ;

46. For purposes of electing the Primate, the post of the Chairman of the Convention is entrusted to the Head of the Mandate Commission and voting is by secret ballot. In order to be elected the Primate, a candidate must receive at least two thirds of the votes of delegates present at the Convention including a majority of votes from the present Bishops. If after the first ballot with three candidates or more, neither of them receives the required majority of votes, the Candidate with the least number of votes is dropped and the balloting is repeated. In the event that neither of the Candidates obtains the required majority of votes, the election of the Primate is carried out by the Council of Bishops. After the election of the Primate, the former Chairman of the Convention assumes his duties.

## VIII. COUNCIL OF THE BAOC

47. All Bishops are members of the Council of the BAOC. In addition, the General Convention, elects seven clergymen, Priests and Deacons, and eight laymen to the Council for a term of seven years. Only persons, who for the last three years have been members in good standing of the BAOC Parishes, can become members of the BAOC Council. A defrocked clergyman, or one under some prohibition imposed by his Bishop, is automatically excluded from the Council of the BAOC. Repeated absence from the Council sessions for a period of two years, without a valid excuse, also results in exclusion from membership in the Council. The Primate then appoints a new member to the vacated seat, who must be aproved by Council of the BAOC.

48. The BAOC Council has jurisdiction over the following matters:

a) The supervision over the general administration, the management of property and the finances of the Church;

b) The consideration and approval of an annual budget presented by the Consistory;

c) The publishing of necessary books, textbooks, and magazines;

d) The final decisions concerning the purchase or sale of building or land by Dioceses and Parishes;

e) The appointment, from among the members of the BAOC Council, of the BAOC Consistory consisting of five persons: a Bishop, two Priests and two laymen;

е). Зацьверджаньне кандыдата на япіскапа;

ё). Разгляд акту Кантрольнай Камісіі БАПЦ;

ж). Вызначэньне статутовай камісіі й камісія для палагоджньня насьпелых спраў.

49. Старшыня Рады БАПЦ — Першы Ярарх — праз сякратара Кансісторыі склікае Раду БАПЦ на паседжаньні, паводле свайго меркаваньня альбо на жаданьне трох ці болей сяброў Рады. Паседжаньні Рады БАПЦ нармальна маюць адбывацца два разы на год, альбо больш у выпадку патрэбы, І яны ёсьць правамоцныя, калі на іх прысутнічае Першы Ярарх альбо вызначаны праз яго ягоны заступнік Япіскап й звычайная бальшыня радных. Усе справы на паседжаньні вырашаюцца звычайнай балшынёй галасоў прысутных на паседжаньні. На жаданьне аднаго з прысутных, галасаваньне мае быць тайным. Пратакол паседжаньня падпісваюць Старшыня паседжаньня й Сакратар Кансісторыі.

## IX. САБОР ЯПІСКАПАЎ

50. Сабор Япіскапаў складаецца з усіх япіскапаў БАПЦ, пад старшынствам Першага Ярарха. У выпадку адсутнасьці Першага Ярарха, Сабор праводзіць, з ягонага ведама, ягоны Заступнік-Япіскап.

51. Сабор Япіскапаў правамоцны пры наяўнасьці ўсіх япіскапаў БАПЦ, апрача тых, якія не маглі прыбыць з ўважлівых прычынаў. Пастановы на Саборы Япіскапаў прыймаюцца звачайнай бальшынёй галасоў прысутных. Ніхто з прысутных на Саборы Япіскапаў не павінен устрымоўвацца ад галасаваньня. Сакратаром Сабору Япіскапаў ёсьць сакратар Кансісторыі, бяз права голасу, калі ён не япіскап.

52. Чарговыя нарады Сабору Япіскапаў адбываюцца два разы на год, згодна з правіламі (канонамі) Царквы. Нечарговыя нарады Сабору Япіскапаў могуць склікацца на загад Першага Ярарха, пастановамі самых япіскапаў, альбо на жаданьне аднаго альбо болей япіскапаў.

53. Да кожнай пастановы Сабору Япіскапаў ставіцца нумар і дата, і яна падпісваецца Старшынёю й Сакратаром Сабору. Пастановы ў справе парушэньня догматаў веравызнаньня падпісваюцца ўсімі прысутнымі на Саборы Япіскапамі.

f) The approval of a candidate for Bishop;

g) The examination of the report by the BAOC Control Board;

h) The appointment of a Commission for Statutes and of other commissions as needed.

**49.** The Primate, as Chairman of the BAOC Council convenes through the Secretary of Consistory, sessions of the Council at his own discretion or upon the request of three or more members of the Council. Normally, sessions of the Council are held twice a year, more often if needed. Each session is legally competent when a simple majority of members, inclusive of the Primate or his appointed Deputy Bishop are present. All matters are decided by a simple majority vote of members present. Upon request of one member, the voting may be by secret ballot. Minutes of the session are signed by the Chairman and Secretary.

## IX. COUNCIL OF BISHOPS

**50.** The Council of Bishops, consists of all the Bishops of the BAOC, under the chairmanship of the Primate. In the absence of the Primate, but with his knowledge, sessions of the Council are chaired by his Deputy Bishop.

**51.** The Council is duly constituted when all Bishops of the BAOC are in attendance, with the exception of those who are unable to attend for valid reasons. Decisions of the Council are made by simple majority of those present. No one may abstain from voting. The Secretary of the Consistory also serves as the Secretary of the Council of Bishops, however, he has no vote if his rank is lower than that of Bishop.

**52.** Regular sessions of the Council of Bishops are held twice a year in accordance with Canonical rules. Special sessions can be called by the Primate, by decision of the Council itself, or upon the expressed wish of one or more of Bishops.

**53.** Each decision of the Council is numbered, dated, and signed by the Chairman and Secretary of the Council. Decisions involving violations of the dogmas of faith are to be signed by all Bishops present at the session of the Council.

54. На Саборы Япіскапаў БАПЦ разглядаюцца наступныя справы:

а). Пытаньні навукі веры й маралі, царкоўных правілаў, абрадаў і зацьверджаньне новых малітваў;

б). Хіратоніі япіскапаў;

в). Зацьверджаньне перакладу на беларускую мову Сьв. Пісьма, кніг для багаслужбаў і сьпеву, падручнікаў для навукі рэлігіі;

г). Царкоўныя казаньні й навукі маралі;

д). Падзел япархіяў і вызначэньне сталага Кіраўнічага Япіскапа на Япархію, альбо тымчасовага адміністратара Япархіі;

е). Звальненьне альбо перавод япархіяльнага япіскапа;

ё). Выбары заступніка Першага Ярарха;

ж). Узнагароды сьвятарам;

з). Прыняцьце сьвятароў зь іншых Праваслаўных Цэркваў;

і). Выбары кандыдатаў на Першага Ярарха;

й). Зацьверджаньне правілаў для манастыроў;

к). Вызначэньне камісіі для праверкі кандыдата на япіскапа;

л). Пытаньні сувязі зь іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі;

м). Скаргі на япіскапаў;

н). Пазбаўленьне сьвятарскага сану, альбо аднаўленьне сану й правоў.

## X. КАНСІСТОРЫЯ БАПЦ

55. Сябры Кансісторыі БАПЦ назначаюцца, як адзначана ў артыкуле 48-ым, пункце «д» гэтага статуту. Усе дакуманты, пісаныя ў Кансісторыі падпісваюць Старшыня й Сакратар Кансісторыі. Выдатковыя чэкі

54. The following matters are considered by the Council of Bishops:

a). Questions the teaching of faith and morals, of Church rules and customs. The approval of new prayers;

b) The Consecration of Bishops;

c) The Approval of the translation of Holy Scriptures into the Belarusan language; of books for Holy Services and singing, and textbooks for religious instruction;

d) Sermons and moral teachings;

e) The division of the Dioceses and the designation of permanent Governing Bishop for the Diocese, or a temporary administrator;

f) The Discharge or transfer of the Diocesan Bishop;

g) The election of the Deputy for the Primate;

h) The Commendation of Clergy;

i) The Acceptance of Priests coming from other Orthodox Churches;

j) The election of the candidates for the post of the Primate;

k) The ratification of monastic rules;

l) The appointment of a Commission for examination of a candidate for Bishop;

m) Questions of contacts with other Orthodox Churches;

n) Complaints against Bishops;

o). The defrocking of a priest, or the restoration of a priest's rights and rank.

## X. CONSISTORY OF THE BAOC

55. Members of the BAOC Consistory are appointed as stated in paragraph 48, point "e" of this statute. The Head of the Consistory is a Bishop. All documents prepared by the Consistory are signed by its Head and by the Secretary. Expen

падпісваюць Старшыня й Скарбнік Кансісторыі. На кожнае выдаткаваньне павінны быць апраўдальныя дакуманты.

56. Да абавязкаў Кансісторыі БАПЦ належаць:

а). Выкананьне пастановаў Сабору БАПЦ, Рады БАПЦ і Сабору Япіскапаў БАПЦ;

б). Цесная лучнасьць зь япархіямі й парафіямі;

в). Арганізацыя збору ахвяраў і ўкладаньне буджэту БАПЦ;

г). Вядзеньне дакладнага ўліку рухомае й нярухомае маёмасьці БАПЦ;

д). Пісьмовы ўлік сьвятароў БАПЦ;

е). Абарона інтарэсаў БАПЦ у выпадку патрэбы;

ё). Купля ці продаж зямлі й будынкаў, калі на гэта маецца пастанова Рады БАПЦ.

## XI. КАНТРОЛЬНАЯ КАМІСІЯ БАПЦ

57. Кантрольная Камісія БАПЦ складаецца з трох асобаў: старшыні, заступніка старшыні, сакратара й трох запасных сяброў, выбраных на Саборы БАПЦ на сем гадоў. Сябры яе маюць адказваць вымогам адзначаным у артыкуле 32-ім гэтага статуту. У выпадку выбыцьця сябры з Камісіі, Рада БАПЦ вызначае новага сябру з паміж запасных сяброў. Сябры й запасныя сябры Кантрольнай Камісіі ня могуць належаць да Рады БАПЦ ані да Япархіяльнай Управы. Кантрольная Камісія БАПЦ павінна ня менш як адзін раз на год правяраць дзейнасьць, касу, банкавае конта й кнігаводзтва Кансісторыі, Япархіяльных Управаў і ўстановаў пры іх, а таксама жадаць ад Парафіяльных Камісіяў падобнай праверкі ў парафіях.

## XII. ЦАРКОЎНЫ СУД БАПЦ

58. Ніхто зь вернікаў БАПЦ (міран ці духоўных) не павінен шукаць вырашэньня спрэчак, якія кранаюць царкоўныя справы, ў сьвецкіх судах.

se cheques must be signed by the Head and the Treasurer of the Consistory. Each expense must be accompanied by supporting primary documents.

56. The duties of the Consistory include:

a) Execution of decisions passed by the BAOC General Convention, BAOC Council, and Council of Bishops;

b) Maintaining close contact with Dioceses and Parishes;

c) Fund raising and preparation of an annual budget proposal for the BAOC;

d) Maintenance of strict accounting for real estate and other property of the BAOC;

e) Maintaining a roster of BAOC clergy;

f) Intercession for and defense of BAOC interests whenever needed.

g) The purchase or sale of real estate and land, following the decision of the BAOC Council in the matter;

## XI. CONTROL BOARD OF THE BAOC

57. The BAOC Control Board consists of three persons: the Chairman, his Deputy, and Secretary, plus three substitutes, all elected by the BAOC General Convention for a term of seven years. Its members must meet the standards set up in paragraph 32 of this Statute. In the event a member vacates a seat on the Board, the Council of the BAOC appoints a new member from among available substitutes. Neither members of the Control Board nor their substitutes can belong to the BAOC Council or the Diocesan Administrative Board. At least once a year the BAOC Control Board is required to examine the activities, available cash, bank account, and bookkeeping of the Consistory, and Diocesan Administrative Boards and other associated BAOC institutions; it may insist on similar examination on the part of local Control Boards of any Parish.

## XII. ECCLESIASTICAL COURT OF THE BAOC

58. No one of the believers (layman or clergy) of the BAOC having altercation in a Church matter should go to Secular Court to pass judgement

59. Усе скаргі падаюцца на разгляд Рады БАПЦ, а справы, якія вымагаюць судовага разгляду й вырашэньня, Рада БАПЦ перадае ў Кансысторыю, якая ў сваю чаргу паведамляе пра гэта старшыню Рады БАПЦ.

60. Рада БАПЦ вызначае царкоўны суд з трох вернікаў БАПЦ, разглядаць усе спорныя справы, як, скаргі ці непаразуменьні ў царкоўна-грамадзкім жыцьці вернікаў, парафіяў ці япархіяў.

61. Сябры Царкоўнага Суда не павінны мець пасрэднай ці безпасрэднай лучнасьці з разгляданай справай, ані быць кроўна пасвоенымі з тымі, што судзяцца.

62. Абодва бакі, як той, хто падаў ў суд, і як той, хто пазваны, маюць даць сваю згоду адносна выбраных судзьдзяў разглядаць іхную справу.

63. Старшынёю Царкоўнага Суду мае быць духоўная асоба; япіскап альбо ярэй.

64. Царкоўны Суд разглядае справу й выносіць прысуд на аснове правілаў, пералічаных у артыкуле 4-ым гэтага статуту.

65. Ад прысуду засуджанаму прыслугоўвае права апэляцыі да Сабору Япіскапаў, пастанова якога ёсьць канчальнай.

66. Увесь ход суда запісваецца ў пратакол і перадаецца разам з усімі дакумантамі сакратару Кансісторыі БАПЦ, які паведамляе Раду БАПЦ і абодва бакі пра прысуд.

67. Судовую справу ў якой замешаны япіскап, могуць разглядаць толькі япіскапы выбраныя судзьдзямі Саборам Япіскапаў БАПЦ. Япіскап які падае справу ў суд альбо сам зьяўляецца падсудным, ня можа быць выбраны судзьдзёю ў Царкоўны Суд й прыймаць удзел ў вырашэньні гэтай судовай справы, але можа выступаць з довадамі закідаў ці апраўданьня. Калі ў судовай справе замешаны ярэй, тады справу разглядаюць япіскап і двух ярэяў.

68. Толькі Сабор Япіскапаў мае права накладаць вінаватым наступныя кары:

а). Накладаць анатаму й адлучаць ад Царквы сьвятароў і міранаў;

б). Пазбаўляць сьвятароў сану, манахаў і манахінь манаства;

**59.** All complaints addressed to the Council of the BAOC for consideration, and if the matter needs judgement of the Ecclesiastical Court, Council submits it to the Consistory, which notifies the Chairman of the BAOC Council.

**60.** The Council of the BAOC appoints an Ecclesiastical Court which consists of three members of the BAOC to consider Court cases: complaints or misunderstandings in the Church and civil life of believers, parishes or Dioceses.

**61.** Members of the Ecclesiastical Court are not permitted to have either direct or indirect contact with individuals whose case is under consideration, nor be a blood relative of either party.

**62.** Both sides: plaintiff and defendant have to agree with judges elected, who will look into their matter.

**63.** A Bishop or Priest has to chair and to preside over the Ecclesiastical Court.

**64.** The Ecclesiastical Court considers cases and makes judgments based on the principles and rules enumerated in paragraph 4 of these statutes.

**65.** Both sides have the right to appeal the verdict to the BAOC Council of Bishops, whose decision is final.

**66.** Court keeps detailed minutes on each case. After the conclusion of the case, these minutes are sent, with all other documents, to the Secretary of the Consistory, who notifies the BAOC Council and both sides of the verdict.

**67.** Court matters which concern a Bishop may only be decided by the Council of Bishops. A Bishop, who submits a complaint to the court or appears as a defendant, cannot be elected as a judge into the Ecclesiastical Court and participate in the consideration of a case, but he may testify in his own defense or in support of accusations. A court case involving a priest is considered by a Bishop and two Priests.

**68.** The following punishments can only be imposed by the Council of Bishops:

a) Excommunication and separation from the Church of clergy and believers;

b) Defrocking of Priests, deprivation of the status of monks and nuns;

в). Пазбаўляць япіскапаў япархіяльнага пасаду.

69. Як той, хто падае ў суд, так і пазваны, маюць права выстаўляць сьведкаў, а таксама наймаць адвакатаў. На судовай сэсіі маюць прысутнічаць абодва бакі. Калі б сталася, што адну гадзіну пасьля часу, вызначанага на пачатак сэсіі, адсутнічае той, хто падаў скаргу альбо пазваны, тады суд адкладаецца ня больш, як на два месяцы. Калі б пры паўторным пакліканьні адсутнічаў той, хто падаў скаргу, тады справа анулюецца, а калі б пазваны, тады ён прызнаецца вінаватым.

## XIII. ЯПАРХІЯ

70. БАПЦ дзеліцца на япархіі. Межы япархіі вызначае Сабор Япіскапаў. Усе манастыры, апрача стаўрапігіяльных, якія знаходзяцца на тэрыторыі Япархіі, падлягаюць беспасрэдна Кіраўнічаму Япіскапу той Япархіі. Усе парафіі, місіі, і іншыя інстытуцыі БАПЦ альбо царкоўныя арганізацыі падлягаюць ў адміністрацыйным парадку Япархіяльнай Управе.

### А. Япархіяльная Ўправа

71. Япархіяльная Ўправа начале з Кіраўнічым Япіскапам кіруе Япархіяй згодна з правіламі, адзначанымі ў артыкуле 4-ым гэтага статуту. Усе пастановы Сабору БАПЦ, Рады БАПЦ ды распаражэньні Кансісторыі БАПЦ забавязваюць Япархіяльную Ўправу. Япархіяльная Ўправа кіруе справамі адміністрацыйнымі, асьветнымі, місійнымі, гаспадарчымі і фінансавымі Япархіі. Япархіяльная Ўправа складаецца зь пяці асобаў: япіскапа й выбраных на Япархіяльным Саборы двух сьвятароў і двух міран; а таксама выбіраюцца два сьвятары й два міране, як запасныя сябры. Япархіяльная Ўправа выбіраецца на пяць гадоў, і лік сяброў яе ў меру патрэбы можа быць павялічаны няпарна. Калі б адзін з сяброў Япархіяльнай Ўправы выбыў, альбо быў звольнены Кіраўнічым Япіскапам перад тэрмінам, тады на звольненае месца Кіраўнічы Япіскап назначае новага сябру спаміж запасных да канца кадэнцыі.

72. Сакратаром Япархіяльнай Управы мае быць сьвятар. Ён наглядае за спраўным вядзеньнем канцалярыі і падпісвае ўсе паведамленьні й лісты.

c) Taking away a Diocesan post from a Bishop.

**69.** In support of their interests both plaintiff and defendant have the right to present witnesses and hire lawyers. Both sides must be present at court. In the event that one hour after the time originally set for the start of Court proceedings the plaintiff or defendant is still absent, court is adjourned for not more than two months. If at the second session the plaintiff fails to appear, the case is dismissed; if defendant is absent he is declared guilty.

## XIII. THE DIOCESE OF THE BAOC

**70.** The BAOC is divided into Dioceses whose borders are set by the Council of Bishops. All monasteries, except for the stavropigial ones, which are located within the confines of a given Diocese, are directly subject to the Governing Bishop of that Diocese. All Parishes, Missions, and other BAOC institutions or religious organizations are subject to the Diocesan Board in administrative matters.

### A. DIOCESAN ADMINISTRATIVE BOARD

**71.** The Diocesan Administrative Board is headed by the Governing Bishop. This Board administers the Diocese in accordance with principles stated in paragraph 4 of these statutes. All decisions of the BAOC General Convention, BAOC Council and orders of the BAOC Consistory obligate the Diocesan Administrative Board. The Diocesan Administrative Board exercises authority over administrative, educational, missionary, economic, and financial matters of the Diocese. The Administrative Board consists of five persons: The Governing Bishop and four members elected by the Diocesan Convention (two priests and two laymen). In addition two priests and two laymen are elected as substitutes. Members of the Diocesan Administrative Board are elected for a five year term. If necessary the number of members on this Board can be increased to an uneven number. In the event one member of the Board leaves or is dismissed before the end of his term, the Governing Bishop appoints a new member from among the substitutes for the remainder of the term.

**72.** The Secretary of the Diocesan Administrative Board must be a priest. He is in charge of the Board's office and signs all releases and papers.

73. Усе справы Япархіяльнай Ўправы вырашаюцца звычайнай бальшынёй галасоў. Паседжаньне ёсьць правамоцным, калі на ім прысутнічае Кіраўнічы Япіскап, альбо ўпаўнаважаны праз яго заступнік, і тры сябры Епархіяльнай Управы. Усе тыя справы у юрысдыкцыі Япархіі, што не даюцца залагодзіць на месцы, перадаюцца на вырашэньне ў Кансісторыю БАПЦ.

## Б. Епархіяльны Сабор.

74. Епархіяльны Сабор склікаецца раз у пяць гадоў, а ў выпадку патрэбы ён можа склікацца у іншы час, не парушаючы пяцігадовай чаргі. Дэлегаты на Сабор: усё сьвятарства Япархіі, сябры Епархіяльнай Управы й па два дэлегаты ад кожнай парафіі, па адным дэлегату ад місіі й інстытуцыі пры Япархіі. Манастыры прадстаўляюць: ігумен/ігыменя і адзін дэлегат манах/манахіня ад кожнай поўнай ці пачатай трыццаткі манахаў ці манахінь.

75. На аснове пастановы пра скліканьне Сабору Епархіяльнай Управы Кіраўнічы Япіскап паведамляе манастыры, інстытуцыі, парафіі й місіі пра Сабор не пазьней як тры месяцы перад вызначанай датай Сабору. У паведамленьні мае быць сказаны дзень, час і месца Сабору ды парадак нарадаў.

76. Сьпіскі дэлегатаў на Епархіяльны Сабор ад парафіяў і місіяў падпісваюць — кіраўнічы ярэй і старшыня парафіяльнай рады, а ад інстытуцыі — кіраўнік інстытуцыі, і перасылаюць у Епархіяльную Ўправу не пазьней як за месяць перад вызначанай датай Сабору. Перад пачаткам Сабору ўсе дэлегаты маюць запісацца ў сакратара Епархіяльнай Управы, які праверае праўнасьць дэлегатаў паводле сьпіску.

77. На Епархіяльным Саборы разглядаюцца і выносяцца пастановы ў наступных справах:

а). Выбар Епархіяльнай Управы;

б). Разгляд справаў: адміністрацыйных, гаспадарчых, фінансавых, місійных і асьветных Япархіі;

в). Пры патрэбе выбар кандыдата на япіскапа.

73. All matters in the Diocesan Administrative Board are decided by a simple majority vote. It's sessions have legal competence when the Governing Bishop, or his authorized deputy, and three membersof the Board are present. All matters of Diocesan jurisdiction that cannot be locally solved are submitted to the BAOC Consistory.

## B. Diocesan Convention

74. The Diocesan Convention takes place every five years. However, if necessary, it can be convened at any other time without disturbing the five year sequence. Delegates to the convention are: all clergy of the Diocese, members of the Diocesan Administrative Board, two delegates from each Parish and one delegate from each Mission or other BAOC institution located in the Diocese. A Monastery is represented by the Abbot/Abbess and one delegate monk/nun from each thirty (full or initiated) fellow monks/nuns.

75. After a decision is made by the Diocesan Administrative Board to convene, the Governing Bishop notifies Parishes, Monasteries, Missions, and other institutions about the Convention not later than three months before the designated date. The notice must show the date, time, place and the agenda of the coming convention.

76. Lists of delegates to the Diocesan Convention from the Parishes and other institutions, signed by the Head of the Parish and Chairman of the Parish Council, or by the Leader of the institution, must be submitted to the Diocesan Administrative Board not later than one month before the date of the Convention. At the Convention the delegates must register with the Secretary of the Diocesan Administrative Board who checks their names off the previously submitted lists.

77. The Diocesan Convention may consider and adopt decisions in the following matters:

a). The election of the Diocesan Administrative Board;

b). Administrative, economic, financial, missionary, and educational issues of the Diocese;

c). And when necessary, the election of a candidate for Bishop.

78. Епархіяльны Сабор правамоцны, калі на ім прадстаўлены прынамсі дзьве траціны парафіяў Япархіі. Старшыня Сабору — Кіраўнічы Япіскап Япархіі, альбо вызначаная праз яго дыхоўная асоба. Усе пастановы Сабору вырашаюцца звычайнай бальшынёй галасоў прысутных дэлегатаў ды тых прадстаўленых праз паўнамоцтвы. Пастановы, падпісаныя Кіраўнічым Япіскапам, неадкладна перадаюцца ў Кансісторыю БАПЦ. Епархіяльны Сабор ня мае права прыймаць пастановаў, якія пярэчылі б артыкулу 4-му гэтага статуту. Пастановы выхаду Япархіі з юрысдыкцыі БАПЦ ёсьць няправўныя, а Кіраўнічы Япіскап, калі ён згодны з гэтымі пастановамі, пазбаўляецца кіраўніцтва Япархіяй.

## XIV. ПАРАФІЯ

79. Парафія — аснаўная складовая адзінка Япархіі. Форма назову й загалоўкі афіцыйных лістоў Парафіі ёсьць: БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА, Парафія Сьвятога (імя) у (места).

80. Дзеля зьдзейсньненя свае мэты, адзначанай у артыкуле 6-ым гэтага статуту, парафія:

а). Будуе ці купляе будынак (сьвятыню), будуе альбо купляе будынкі й зямлю.

б). Даглядае царкоўную маемасьць, утрымоўвае сьвятарства парафіі й царкоўны хор;

в). Арганізуе брацтвы, сястрыцтвы, гурткі моладзі ці іншыя зьяднаньні дзеля навучаньня Сьвятога Пісаньня ды аховы беларускіх праваслаўных традыцыяў;

г). Дбае пра матарыяльныя сродкі парафіі празладжаньне канцэртаў, дакладаў, зьбіраньне ахвяраў і іншае;

д). Арганізуе й даглядае парафіяльную школу:

е). У патрэбе, па магчымасьці, памагае бедным і нядужным парафіянам.

81. Новая парафія БАПЦ можа быць заснаваная на просьбу ня менш дзесяці вернікаў якой-небудзь мясцовасьці, пры ўмове, што гэтая парафія мае магчымасьці на разьвіцьцё. Пры адчыненьні новае, ці пераходзе парафіі з іншай праваслаўнай Царквы ў юрысдыкцыю БАПЦ, мае быць прынятая пастанова Парафіяльнага Сходу данай парафіі, што

**78.** The Diocesan Convention is duly constituted when at least two-thirds of the Parishes are represented. The Convention is chaired by the Governing Bishop or by his designated clergyman representative. All decisions at the Convention are passed by a simple majority vote of delegates present and those represented by proxy. These decisions, signed by the Governing Bishop, are dispatched without delay to the Consistory. The Diocesan Council cannot pass decisions violating paragraph 4 of this statute. Decisions declaring secession from the BAOC are illegal and a Governing Bishop who agrees with them is deprived of his position in the Diocese.

## XIV. THE PARISH

**79.** The Parish is the basic constituent unit of the Diocese. The form to be used in letterheads to designate the official name of the Parish is: THE BELARUSAN AUTOCEPHALOUS ORTHODOX CHURCH, PARISH OF SAINT (name) IN (place).

**80.** To realize the aims stated in paragraph 6 of these statutes, the Parish:

a). Builds or purchases a church building, other edifices and land;

b). Manages Church property, maintains the clergy of the Parish and the Church Choir;

c). Organizes Brotherhoods and Sisterhoods, youth groups and other associations for the purpose of studying the Holy Scriptures and the preservation of Belarusan Orthodox traditions;

d). Takes care of the financial needs of the Parish by organizing concerts, lectures, fund drives, etc.;

e). Organizes and maintains a Parish school;

f) To the extent of its means, helps the needy and disabled parishioners.

**81.** A new BAOC Parish can be opened upon the application of not less than ten believers, residents of a given locality, under the precondition that the Parish has definite prospects of development. At the opening of a new Parish, or at the coming-over of a whole Parish from another Orthodox Church into the jurisdiction of the BAOC, a decision must be passed by a General Meeting of

яна дабравольна ўваходзіць у юрысдыкцыю БАПЦ і падпарадкоўваецца ўсім правілам гэтага статуту Арыгінал такога пратаколу падпісанага ўсёй Парафіяльнай Радай, мае трымацца у архіве Кансісторыі БАПЦ. На ягонай аснове праводзіцца прыняцьцё новае парафіі ў юрысдыкцыю БАПЦ.

82. Кожная парафія ёсьць уласніцай парафіяльнай маёмасьці рухомай ці нярухомай, атрыманай ў падарунку ці па тэстаманту, купленай ці збудаванай.

83. Калі б Кіраўнічы Парафіі альбо сябры Парафіяльнай Рады, ці Парафіяльнай Кантрольнай Камісіі, пасьля выбару іх на пасады, ня прызналі над сабой улады Кіраўнічага Япіскапа, у юрысдыкцыі якога гэтая парафія знаходзіцца, тады яны аўтаматычна пазбаўляюцца пасады, на якую яны былі пастаўлены альбо выбраны, а Кіраўнічы Япіскап вызначае часовую адміністрацыю парафіі. Часовая адміністрацыя, у часе вызначаным Кіраўнічым Япіскапам, не даўжэй шасьці месяцаў, мае склікаць парафіяльны сход і правесьці новыя выбары Парафіяльнай Рады й Парафіяльнай Кантрольнай Камісіі. Адхіленыя ад пасады Кіраўнічы парафіі альбо сябра ці сябры Парафіяльнай Рады маюць права зьвяртацца са скаргай да Рады БАПЦ. Рада БАПЦ праз сакратара павінна адказаць на скаргу не пазьней, як у тры месяцы часу.

84. У выпадку, калі б бальшыня сяброў альбо ўся Парафіяльная Рада адмовілася выконваць абавязкі й падалася да дымісіі, тады Кіраўнічы парафіі зь ведама Кіраўнічага Япіскапа вызначае часовую Парафіяльную Раду пад сваім старшынствам. Выбары новае Парафіяльнае Рады маюць адбыцца не пазьней трох месяцаў ад даты назначэньня часовай Парафіяльнай Рады. Сябры Парафіяльнай Рады, якая падалася да дымісіі ці звольненыя, маюць перадаць усе афіцыйныя справы, кнігі, грошы й дакументы Кіраўнічаму Парафіі. У выпадку незлагадзі між Кіраўнічым Парафіі й Парафіяльнай радай, справу вырашае Кіраўнічы Япіскап Япархіі.

## А. Парафіяльная Рада

85. Парафіяльная Рада, якая выбіраецца на Парафіяльным сходзе на два гады ў складзе: старшыня Рады, заступнік старшыні, сакратар, скарбнік, стараста й заступнік старасты. Усё сьвятарства парафіі ўваходзіць у Парафіяльную Раду з правам голасу, кіруюць жыцьцём парафіі. Пры патрэбе лік сяброў Парафіяльнай Рады можа быць павялічаны няпарна.

Parishioners to the effect that they voluntarily come under BAOC jurisdiction and submit to all the rules of this Statute. The original of the minutes of such a Meeting, signed by all the members of the Parish Council, is to be kept in the archives of the BAOC Consistory. On this basis the acceptance of a new Parish into the BAOC jurisdiction can be completed.

**82.** Each Parish is the sole owner of the Parish Real Estate, Parish property real or personal, inventory donated or bequethed, purchased or leased.

**83.** Should the Head of the Parish or some members of the Parish Council or the Control Board, after appointment or election to their respective posts, refuse to recognize the authority of the Governing Bishop of the Diocese in which their Parish is situated, then they are automatically deprived of said positions to which they were appointed or elected and the Governing Bishop appoints a temporary leadership for the Parish. The Temporary Parish Council, within a time period designated by the Bishop, not longer than six months, must call a Parish Meeting and hold new elections of the Parish Council and the Parish Control Board. Deprived of the position, the Head of the Parish or members of the Parish Council have right to appeal to the Council of the BAOC. The Council of the BAOC, by its secretary, have to respond to this requer in a time frame not longer than three months.

**84.** Should the majority of members or the whole Parish Council refuse to discharge their duties and resign, then the Head of the Parish, with the knowledge of the Governing Bishop, appoints a Temporary Parish Council under his own leadership. Elections of the new Parish Council should take place not later than three months after the appointment of the temporary one. Members of the Parish Council, who resigned or were dismissed must hand over to the Head of Parish all official files, books, money, and documents belonging to the Parish. In the event of a disagreement between the Head of Parish and the Parish Council the right of final decision belongs to the Governing Bishop of the Diocese.

## A. PARISH COUNCIL

**85.** The Parish Council is elected at a Parish Meeting for a term of two years and consists of the Chairman of the Council, his Deputy, Secretary, Treasurer, the Custodian and his Deputy. All clergy of the Parish belong to the Parish Council and have the right to vote. The allocation of duties among the newly

Распадзел пасадаў у Парафіяльнай Радзе адбываецца на першым паседжаньні Парафіяльнай Рады пасьля выбараў. Парафіяльная Рада ў паразуменьні й супрацоўніцтве з Кіраўнічым Парафіі, вядзе адміністрацыйна-гаспадарчыя справы, арганізуе жыцьцё парафіі, згодна з гэтым Парафіяльная Рада выплачвае яму грашовую дапамогу згодна з умовай на працвягу трох месяцаў.

86. Старшыня Парафіяльнай Рады ў паразуменьні і згодзе з Ярэем-Кіраўнічым парафіі кіруе ўсёй дзейнасьцяй Парафіяльнай Рады. Заступнік старшыні выконвае гэтыя абавязкі ў часе адсутнасьці старшыні Парафіяльнай Рады.

87. Сакратар Парафіяльнай Рады:

а). Вядзе ліставаньне з вышэйшымі царкоўнымі ўладамі й парафіянамі;

б). Перахоўвае ўсе атрыманыя і адбіткі высланых лістоў;

в). Вядзе кнігу ліставаньня;

г). Піша пратаколы з паседжаньняў Парафіяльнай Рады.

У выпадку яго адсутнасьці, старшыня Парафіялнай Рады паклікае аднаго з сяброў Парафіяльнай Рады для пісаньня пратаколу паседжаньня.

88. Скарбнік зьбірае парафіяльныя складкі і ахвяры на парафію, сочыць за прыбыткамі і выдаткакамі ў парафіі, афармляе кнігаводзтва й падае грашавую справаздачу на кожнае паседжаньне Парафіяльнай Рады..

89. Стараста трымае парадак і чысьціню ў сьвятыні, дбае пра дапамогу прыслужнікаў на багаслужбах і пра сваечасовае забясьпечаньне ўсім патрэбным для багаслужбаў. Заступнік Старасты памагае яму й заступае яго ў выпадку патрэбы..

elected members of the Parish Council takes place at the first meeting after the elections. Whenever needed the number of the Parish Council members may be increased, but always to an odd number. The Parish Council conducts the daily affairs of the Parish and is in charge of administrative and economic matters -- in harmony and in cooperation with the Head of the Parish in accord with this Statute and with the decisions of Parish Meetings. In case of a protracted illness of the Parish Head, the Parish Council supports him financially in accordance with its contractual obligation for three full months.

**86.** The Chairman of the Parish Council, in harmony with the Parish Head, exercises leadership over all the activities of the Council. In his absence his Deputy discharges the same function.

**87.** The Secretary of the Parish Council:

a). conducts correspondence with Church authorities and Parishioners,

b). preserves all incoming and copies of outgoing correspondence;

c). maintains a correspondence Book;

d). and records the minutes of Parish Council meetings.

In his absence the Chairman of the Parish Council may designate one of the Council members to record minutes of the Parish Council meeting.

**88.** The treasurer collects Parish dues and offerings for the Church, supervises income and expenditures of the Parish, keeps the cashbook and all relevant vouchers, and prepares a financial report for each meeting of the Parish Council.

**89.** The Custodian maintains order and cleanliness in the church building, provides help to altar boys during Holy Services, and ensures that supplies needed for them are available. His Deputy helps him in his duties and takes over in his absence.

## Паседжаньні Парафіяльнай Рады

90. Паседжаньні Парафіяльнай Рады склікае Старшыня Парафіяльнай Рады ў паразуменьні зь кіраўнічым парафіі ня менш, як раз у месяц. Нарады правамоцныя, калі на паседжньні прысутнічае кіраўнічы ярэй парафіі, старшыня альбо ягоны заступнік і два іншыя сябры Парафіяльнай Рады. Усе пытаньні на паседжаньні Парафіяльнае Рады вырашаюцца звычайнай бальшынёй галасоў. У выпадку роўнасьці галасоў за й суп-раць, голас кіраўнічага парафіі вырашае. Усе пастановы Парафіяльнай Рады запісваюцца да пратаколу, які падпісваюць старшыня, сакратар і кіраўнічы парафіі.

## Парафіяльная Кантрольная Камісія

91. На Агульным Парафіяльным Сходзе выбіраецца на два гады Парафіяльная Кантрольная Камісія ў складзе старшыні, сакратара і сябры, і двух запасных сябраў. Парафіяльная Кантрольная Камісія правярае гаспадараваньне парафіяльнай маёмасьцяй, грашавы разьлік, кнігаводзтва і ўсю дзейнасьць Парафіяльнай Рады. Кантроля праводзіцца ў меру патрэбы, але не радзей, як раз на год і абавязкова перад Сходам Парафіі. Парафіяльная Кантрольная Камісія праводзіць кантролю:

а). з уласнае ініцыятывы;

б). на жаданьне Кантрольнай Камісі БАПЦ;

в). на жаданьне Кіраўнічага Япіскапа Япархі;

г). на жаданьне кіраўнічага парафіі;

д). на пісьмовае жаданьне трох ці больш паўнапраўных сяброў парафіі.

92. З кожнае кантролі Парафіяльная Кантрольная Камісія складае аду-мысловы акт кантролі, падпісаны ўсімі сябрамі Камісіі, але ня менш як вума. Адна копія акту перадаецца ў Кансісторыю БАПЦ, адна Кіраўні-чаму Япіскапу Япархіі, адна Кіраўнічаму Парафіі і чацьвертая ў Парафіяльную Раду. Акт кантролі чытаецца на звычайным Агульным Сходзе Парафіі пасьля справаздачаў сяброў Парафіяльнае Рады.

## MEETINGS OF THE PARISH COUNCIL

**90.** Meetings of the Parish Council are called by its Chairman in consultation with the Parish Head at least once a month. The meeting is duly constituted in the presence of the Parish Head, Chairman or his Deputy, and two other members of the Parish Council. All matters are decided by simple majority vote of those present. In case of a tie the vote of the Parish Head decides. All decisions passed by the Parish Council are entered into minutes of the meeting which are signed by the Chairman, the Secretary, and the Parish Head.

## THE CONTROL BOARD OF THE PARISH

**91.** The Parish Control Board, consisting of the Chairman, Secretary, and a member (plus two substitutes), is elected at the General Meeting of the Parish for a period of two years. The Board checks the management of church property, financial solvency, bookkeeping, and all activities of the Parish Council. The examination may be made whenever needed, but not less than once a year, and is obligatory before the Ordinary Meeting of the Parish. It can be held:

a). on the Board's own initiative;

b). on demand of the BAOC Control Board;

c). on demand of the Governing Bishop of the Diocese;

d). on demand of the Head of the Parish

e). on the written request of three or more full members of the Parish.

**92.** After each examination, the Control Board must prepare a report which is signed by all members of the Board, but in no case by less than two. One copy of the report is sent to the BAOC Consistory, the second copy goes to the Governing Bishop, the third is sent to the Parish Head, and the fourth one -- to the Parish Council. The report of the Control Board is read at the Ordinary Parish Meeting after all members of the Parish Council finish their reports.

## Сябры Парафіяльнай Рады й Парафіяльнай Кантрольнай Камісіі

93. Сябрамі Парафіяльнае Рады ці Парафіяльнай Кантрольнай Камісіі выбіраюцца асобы, паўнапраўныя сябры парафіі адзначаныя ў артыкуле 34-ым гэтага статуту. У выпадку сьмерці, адмовы ці звальненьня сябры з Парафіяльнай Рады альбо Парафіяльнай Кантрольнай Камісіі, на звольненае месца Парафіяльная Рада за згодаю Кіраўнічага Парафіі вызначае новага сябру да канца кадэнцыі. Адыходзячы сябра мусіць перадаць Кіраўнічаму Парафіі ўсе парафіяльныя дакуманты, грошы, ды іншыя рэчы, якія ёсьць уласнасьцю Парафіі.

## Б. ПАРАФІЯЛЬНЫ СХОД

94. Парафіяльная Рада, у поўнай згодзе з Кіраўнічым Парафіі, склікае Парафіяльны Сход паводле лісты паўнапраўных да ўдзелу на парафіяльных сходах парафіянаў. Гэтая ліста мае быць вывешана на парафіяльнай дошцы абвестак за чатырнаццаць дзён перад сходам. Права голасу і ўдзелу на Парафіяльным Сходзе маюць парафіяне, якія: аплацілі парафіяльныя складкі й не залягаюць больш як год да сходу; ды адказваюць вымогам адзначаным ў артыкулах 30-ым, 33-ім і 109-ым гэтага статуту.

95. Парафіяльны Сход адчыняе Старшыня Парафіяльнае Рады пасьля малітвы Кіраўнічага парафіі. Парафіяльная Кантрольная Камісія правярае правамоцнасьць галасоў прысутных згодна лісты, адзначанай у артыкуле 94-ым гэтага статуту. Па ўстанаўленьні паўнапраўнасьці Сходу праводзяцца выбары старшыні сходу, заступніка старшыні й сакратара сходу ды перадаецца ім кіраўніцтва сходам. Парафіяльны Сход паўнапраўны пры наяўнасьці палавіны (50% галасоў) паўнапраўных парафіянаў. Кожны паўнапраўны парафіянін можа даць сваё ўпаўнаважаньне іншаму паўнапраўнаму парафіяніну галасаваць ад ягонага імя. Толькі два ўпаўнаважаньні дазваляюцца на адну асобу й на кожны голас павінна быць асобнае ўпаўнаважаньне. Усе пытаньні на Парафіяльным сходзе вырашаюцца звычайнай бальшынёй галасоў. Галасаваньне праводзіцца праз падыманьне рук, але на жаданьне двух альбо больш паўнапраўных парафіянаў яно мае быць тайным.

## Membership of Parish Council and Parish Control Board

**93.** Only full members of the Parish can be elected to the Parish Council or Parish Control Board, as indicated in paragraph 34 of this statute. In case of death, resignation or release of a Council or Control Board Member, the Parish Council, with the consent of the Parish Head, may appoint a new member for the remainder of the term. The member who is leaving must return all Parish documents, money and other items, which are the property of the Parish or Church, to the Parish Head.

## B. THE PARISH MEETING

**94.** The Parish Council, with the full consent of the Parish Head, calls the Parish Meeting, by posting the announcement and a list of full members entitled to take part in such a meeting. The list must be publicly displayed on the parish board of announcements 14 days before the date of the Meeting. The right to take part and vote at the Parish Meeting is given to those Parishioners who paid their dues for the current year and have no arrears for more than one year, and otherwise meet the standards stated in paragraphs 30, 33, and 109 of this Statute.

**95.** The Chairman of the Parish Council opens the Parish Meeting after the prayer of the Parish Head. The Parish Control Board checks off those present at the meeting against the list of full members entitled to vote, as stated in paragraph 94 of this Statute and confirms the legal competence of the Meeting. Only after that is done are the Chairman, his Deputy, and the Secretary of the Meeting elected, who then take over the conduct of the Meeting from the Parish Council Chairman. The Parish Meeting is duly constituted when half (50%) of all full members are present personally or represented by proxy. Any full member of the Parish can give a proxy, which must be in writing, to another full member to represent and vote for him at the Meeting. A maximum of two proxies per single member are allowed. There must be a separate proxy from each voting member. A simple majority of votes controls at Parish Meetings. The voting is by show of hands. However upon the request of two or more full members a secret ballot is held.

96. Не пазьней, як два тыдні да парафіяльнага сходу, сакратар Парафіяльнай Рады пісьмом паведамляе ўсіх парафіянаў пра Парафіяльны Сход, падаючы час, дзень і месца ды парадак нарадаў сходу. У тым самым часе ён мае вывесіць копію гэтага паведамленьня на дошцы абвестак на відным месцы ў будынку, у якім гэты сход мае адбыцца. Сьвятар мае прачытаць яго ў канцы багаслужбы за два тыдні да сходу. У выпадку, калі б Парафіяльная Рада адмовілася склікаць парафіяльны сход, тады гэта можа зрабіць Парафіяльная Кантрольная Камісія ў паразуменьні з кіраўнічым парафіі. Калі кіраўнічым ёсьць япіскап, тады ён сам склікае гэты сход паводле свайго меркаваньня.

97. Гадавы сход Парафіі склікаецца ў другой палавіне месяца лютага кожнага году й на ім разглядаюцца бягучыя справы парафіі, а калі прыпадаюць перавыбары — выбары органаў парафіі.

98. Пры недастатковым ліку парафіянаў, адзначанага ў артыкуле 95-ым гэтага статуту, Парафіяльная Рада ў паразуменьні з кіраўнічым парафіі вызначае новую дату сходу, які павінен адбыцца не раней за дваццаць і не пазьней за шэсьцьдзесят дзён ад дня неадбытага сходу. Парадак нарадаў адложанага парафіяльнага сходу той самы, што [redacted] неадбытага сходу.

99. Надзвычайны Парафіяльны Сход склікаецца ў выпадку неабходнай патрэбы на жаданьне:

а) Кіраўнічага парафіі;

б). Парафіяльнай кантрольнай камісіі;

в). Кіраўнічага япіскапа Япархіі;

г). На заяву падпісаную ня менш як шасьцю паўнапраўнымі парафіянамі.

Надзвычайны Сход Парафіі мае прыняць пастановы ў тых справах, дзеля якіх гэты сход быў скліканы. Усе заявы падаюцца кіраўнічаму парафіі й парафіяльнай радзе з вызначэньнем мэты, дзеля якой сход мае быць скліканы.

**96.** Not later than two weeks prior to the date of the Meeting, the Secretary of the Parish Council sends out to all Parishioners a written announcement with the date, time, place and proposed agenda of the Parish Meeting. At the same time he puts a copy of such announcement on public display in a conspicuous spot in the building in which the Meeting is to be held. Also, two weeks before the Meeting the Priest must read aloud the same announcement in the Church after Holy Services. In the event the Parish Council refuses to call the Parish Meeting, the Parish Control Board can do so, after consultation with the Parish Head. If the Head of the Parish is a Bishop, he can call a Parish Meeting at his own discretion.

**97.** The annual meeting of the Parish will be convened in the second half of February on a yearly basis. All current matters concerning the Parish are discussed at this time. And if it is an election year then Elections are held.

**98.** In the event that an insufficient number of full members are present at the meeting as stated in paragraph 95 of this Statute, the Parish Council, after consultation with the Parish Head, designates a new date for the meeting. The date of this meeting is not earlier than twenty days nor later than sixty days after the date scheduled for the original Meeting. The agenda remains the same for the new meeting.

**99.** A special meeting of the Parish is called whenever a special need arises. This meeting may be convened at the request of:

a). The Parish Head;

b). The Parish Control Board;

c). The Governing Bishop of Diocese;

d). Or the written request of at least six full members of the Parish.

This special Parish Meeting makes decisions on matters for which it has been called. All requests to hold such a meeting, designating the matter to be decided, are submitted to the Parish Head and to the Parish Council.

100. Усе пастановы Парафіяльнага Сходу ўпісваюцца да пратаколу за подпісам кіраўнічага парафіі, старшыні [redacted] сакратара сходу. Не пазьней як месяць пасьля сходу, копія пратаколу мае быць перасланая на зацьвер джаньне Кіруючаму Япіскапу Япархіі. Нававыбраная Парафіяльная Рада й Парафіяльная Кантрольная Камісія ды ўсе пастановы сходу лічацца важнымі [redacted] абавязваючымі пасьля зацьверджаньня іх Кіраўнічым Япіскапам.

## XV. МАНАСТЫР

101. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква можа засноўваць, на аснове царкоўных правілаў, мужчынскія й жаночыя манастыры, якія маюць свае правілы манашага жыцьця, зацьверджаныя Саборам Япіскапаў БАПЦ. Кожны манастыр зьяўляецца асобнай адміністрацыйнай адзінкай. Усе манастыры, што знаходзяцца ў япархіі, падлягаюць беспасрэдна ўладзе кіраўнічага япіскапа той япархіі. Кіраўнічы япіскап вызначае ў манастыр архімандрыта ці ігумена. Пры манастырах могуць існаваць, з дазволу дзяржаўных уладаў, розныя прадпрыемствы і ўстановы годныя манашаму жыцьцю.

102. Манастыр можа падлягаць беспасрэдна ўладзе Першага Ярарха БАПЦ, але на гэта мае быць пастанова Сабору Япіскапаў БАПЦ; тады ён завецца стаўрапігіяльным манастыром.

## XVI. БРАЦТВЫ Й СЯСТРЫЦТВЫ

103. Пры парафіях могуць засноўвацца брацтвы й сястрыцтвы, з мэтай большага ажыўленьня рэлігійнага і асьветнага жыцьця, утрыманьня ў адпаведным стане сьвятыні, супрацоўніцтва ў арганізацыі ўрачыстых багаслужбаў і дзеля дабрачыннасьці. Рэгулямін брацтва [redacted] сястрыцтва зацьвярджае Кіраўнічы Япіскап Япархіі.

## XVII. МІСІІ

104. Для шырэньня праваслаўнай веры й абароны праваслаўных вернікаў ад ілжывых навукаў, арганізуюцца місіянерскія гурткі з ярэем начале, якія працуюць на аснове правілаў, выпрацаваных Саборам Япіскапаў БАПЦ. Кожны місіянер мае быць паўнапраўным вернікам БАПЦ, як адзначана ў артыкулах 32-ім і 34-ым гэтага статуту.

**100.** All decisions made at the Parish Meeting are entered into the minutes of the Meeting, which are then signed by the Parish Head, as well as the Chairman and Secretary of the Meeting. No later than one month after the Meeting, a copy of minutes has to be sent to the Governing Bishop for approval. Election of a new Parish Council and a new Parish Control Board, and all decisions of the Parish Meeting are valid and legally binding after their approval by the Governing Bishop.

## XV. THE MONASTERY

**101.** In reliance on general Church principles, the Belarusan Autocephalous Orthodox Church, may establish male and female Monasteries, which possess their own rules of monastic life, approved by the Council of BAOC Bishops. Each monastery as a unit has its own administration. All Monasteries within a Diocese are under the direct authority of the Governing Bishop of that Diocese. The Governing Bishop appoints an Archimandrite or Abbes for the Monastery. By permission of state authorities, various enterprises and institutions, which do not encroach upon the monastic way of life, may exist at the Monasteries.

**102.** A Monastery may be under the direct authority of the Primate of the BAOC. It is then called Stavropigial Monastery. However, such a determination requires approval of the Council of Bishops.

## XVI. BROTHERHOODS AND SISTERHOODS

**103.** For the purpose of greater revival of religious and educational life, of keeping church buildings in proper repair, of cooperation in the organization of festive Holy Services and for the sake of charity, Brotherhoods and Sisterhoods can be established in the Parishes. Their by-laws must be approved by the Governing Bishop.

## XVII. THE MISSIONS

**104.** For the purpose of spreading the Christian Orthodox Faith and defending Orthodox believers from false teachings, Missionary Groups, headed by Priests, are organized. These Missionary Groups conduct their activities guided by rules established by the BAOC Council of Bishops. Each Missionary member must be a full member of the BAOC who meets the requirements of paragraphs 32 and 34 of this Statute.

## XVIII. ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

105. У аддаленых ад асяродка парафіі мясцох, дзе жыве тры ці больш сем'яў паўнапраўных парафіянаў, могуць існаваць Прадстаўніцтвы. Яны выбіраюць спаміж сябеаднаго прадстаўніка, які трымае сталую лучнасьць з Кіраўнічым Парафіі й Парафіяльнай Радай Парафіі. Усе яны маюць аднолькавыя правы і абавязкі як усе парафіяне. Пры прадстаўніцтве можа быць прыпісная капліца, як адзначана ў артыкулах 32-ім і 113-ым гэтага статуту.

## XIX. ШКОЛА

106. Пры япархіях БАПЦ можна адчыняць вышэйшыя школы й курсы для падрыхтоўкі кандыдатаў на сьвятароў [illegible] дырыгентаў хораў, а пры парафіях — нядзельныя школы. А таксама могуць існаваць і іншыя асьветныя ўстановы. Рэгулямін, апрацаваны Радай БАПЦ, мае гарантаваць самакіравецтва школе пры япархіях, аднак ня можа навучаць ерасі ў разуменьні праваслаўных догматаў. У фінансавых справах школа пры япархіях падапарадкаваная епархіяльнай управе. Рэгулямін і праграму для нядзельных школаў зацьвярджае Рада БАПЦ. Арганізацыю навучаньня ўстанаўляе парафіяльная рада супольна з настаўнікамі. Фінансаваньне нядзельных школаў ёсьць абавязкам парафіяльнай рады.

## XX. АПЕКА

107. Калі на гэта ёсьць магчымасьць, БАПЦ можа мець касу забясьпечаньня (КЗ), якой кіруе Кансісторыя БАПЦ. Удзельнікамі Касы Забясьпечаньня могуць быць усё сьвятарства й сталыя працаўнікі пры ўстановах БАПЦ. (КЗ) выплачвае пеньсіі сваім удзельнікам па старасьці альбо па выслузе ў БАПЦ, ці з прычыны цяжкой хваробы. Пры япархіях могуць існаваць касы дапамогі (КД) для вернікаў БАПЦ: — удоваў, сіротаў, зацяжна хворых ці студэнтаў. Касай (КД) пры япархіі кіруе епархіяльная Ўправа. Правілы касаў выпрацоўвае Рада БАПЦ.

## XVIII. REPRESENTATIONS

**105.** In localities distant from a Parish Center, where three or more families of full members of the Church are settled, Representations may be established. They elect from among themselves one Representative who maintains steady contact with the Parish Head and with the Parish Council. All members of a Representation have the same rights and duties as other Parishioners. A Registered Chapel may exist at the Representation as stated in paragraphs 32 and 113 of this Statute.

## XIX. SCHOOLS

**106.** At the Parish, Dioceses are Schools of higher learning and courses for upgrading candidates for the priesthood and choir master position. Sunday schools may be established. Sunday schools may be established at the Parish. Other educational institutions may also exist. The regulation work-out by the BAOC Council must guaranty self-government for Diocesan school. No heresy be allowed, the teachings shall be in agreement with the dogmas of the Orthodox Church. In financial matters, the Diocesan school is under the authority of the Diocesan Administrative Board. The regulations and the teaching programs for Sunday schools are also approved by the BAOC Parish Council and teachers are in charge of the actual organization of the school and conduct of teaching. Securing financing for Sunday School is one of the duties of the Parish Council.

## XX. SOCIAL WELFARE

**107.** If it is possible, the BAOC may have a Pension Plan administered by the Consistory. Participants in such a plan may be all clergy and permanent lay workers of BAOC establishments. The Plan would pay pensions to its participants based on old age, length of service, or severe illness. Welfare plans for BAOC members may exist in the Diocese to provide help to destitute widows, orphans, victims of long illness, and students. The Diocesan Administrative Board is in charge of the Welfare plan, whose by-laws are worked out by the BAOC Council.

## XXI. ЦАРКОЎНЫЯ ПРЫБЫТКІ

108. Царкоўныя прыбыткі складаюцца з:

а). Ахвяраў, аплатаў за трэбы, выручак з імпрэзаў і прадпрыемстваў пры манастырох;

б). Парафіяльных складак, талерачных збораў, продажы сьвечак, абразоў, крыжыкаў і кніжак ды часопісаў;

в). Асабовага ападаткаваньня, што ідзе на патрэбы Кансісторыі БАПЦ.

109. Кожны парафіянін, хто кончыў васемнаццаць гадоў жыцьця, забавязаны плаціць у парафію складкі, вызначаныя парафіяльным сходам. Ад парафіяльных складак могуць быць звольненыя: удовы зь дзяцьмі ніжэй за 18-цілетніх, студэнты й хворыя, — на іхную асабістую просьбу.

## XXII. ЦАРКОЎНАЯ МАЁМАСЬЦЬ

110. Рухомая й нерухомая маёмасьць, як: зямля, сьвятыні, капліцы, будынкі, могільнікі й увесь інвэнтар (купленыя ці ахвяраваныя), грашавыя банкавыя фонды ці касы, што знаходзяцца ў карыстаньні, пад уладай і кіраўніцтвам Кансісторыі, Япархіі, установаў пры Япархіях, манастыроў і місіяў, якія належаць да юрысдыкцыі БАПЦ — усё гэта бяспрэчна ўласнацьць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

111. Рухомая й нерухомая маёмасьць, як: сьвятыні, капліцы, іншыя будынкі, могільнікі й увесь інвэнтар (купленыя ці ахвяраваныя), грашавыя банкавыя фонды ці касы, што знаходзяцца ў карыстаньні, пад уладай і кіраўніцтвам парафіі, якая належыць да юрысдыкцыі БАПЦ — усё гэта бяспрэчна ўласнацьць парафіяў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

112. Усе ўстановы БАПЦ, як: япархіі й інстытуцыі пры япархіях, манастыры й місіі, а так сама парафіі БАПЦ, маюць кожныя тры гады рабіць сьпісы царкоўнай маемасьці й арыгіналы сьпісаў перасылаць у Кансісторыю БАПЦ дзеля перахаваньня.

## XXI. INCOME OF THE CHURCH

**108.** The income of the Church consists of:

a). Donations, payments for services rendered, net profits from social events, and from enterprises at the monasteries;

b). Members' dues, plate collections, the sale of candles, icons, crosses, books and Church magazines;

c). The personal duties which cover the needs of the Consistory of the BAOC.

**109.** Each Parishoner who is 18 years and over of age is required to pay Parish dues, established by the Parish Meeting. Upon their request, widows with children below 18 years of age, students, and the infirm can be exempted from the duty of paying dues.

## XXII. CHURCH PROPERTY

**110.** All real estate, land, church buildings, chapels, other buildings, cemeteries, as well as all movable property and inventory, (purchased or donated), funds in bank accounts or cash in current use under the authority and management of the Consistory, Dioceses, Monasteries and Missions, which belong to BAOC jurisdiction are incontestably the property of the Belarusan Autocephalous Orthodox Church.

**111.** All real estate, land, church buildings, chapels, other buildings, cemeteries, as well as all movable property and inventory, (purchased or donated), funds in bank accounts or cash in current use under the authority and management of the Parishes, which belong to BAOC jurisdiction are incontestably the Parishes property of the Belarusan Autocephalous Orthodox Church.

**112.** Every three years all Dioceses, Diocesan institutions, Monasteries, Missions and Parishes of BAOC, must take an inventory of Church property. The originals of these inventories shall be sent to the Consistory Office where they shall be kept on file.

113. Будова новай сьвятыні пры парафіі мае праводзіцца пад наглядам будаўнічага камітэту, выбранага на парафіяльным сходзе, з дазволу епархіяльнага Кіраўнічага Япіскапа і ў згодзе з Кансісторыяй БАПЦ, на аснове правілаў БАПЦ. Дзеля раскіданасьці парафіянаў, у адлеглых мясцох ад асяродка парафіі могуць быць заснаваны капліцы пад уладай парафіі.

## XXIII. ДАКУМАНТЫ

114. Усе дакуманты на куплю альбо продаж зямлі ці будынку, робленыя кансісторыяй, япархіямі, манастырамі, місіямі ці парафіямі, маюць афармляцца даверанымі, адзначанымі ў артыкуле 29-ым гэтага статуту.

115. Усе акты дагавору парафіі зь іншымі арганізыямі маюць быць дакладна ў згодзе з пастановамі Парафіяльнай Рады альбо сходу парафіі ды зацьверджаны кіраўнічым япіскапам Япархіі.

116. Усе акты дававору епархіяльнай управы, манастыроў і місіяў зь іншымі арганізацыямі ці адзінкамі маюць быць дакладна ў згодзе з пастановамі Епархіяльнай Управы ды зацьверджаныя Першым Ярархам БАПЦ.

117. Усе акты дагавору Кансісторыі БАПЦ зь іншымі арганізацыямі ці адзінкамі маюць быць дакладна ў згодзе з пастановамі Рады БАПЦ ды зацьверджаныя Першым Ярархам БАПЦ.

118. Усе арыгіналы дакумантаў, робленыя ўстановамі, адзначанымі ў артыкулах 114-ым, 115-ым, 116-ым і 117-ым гэтага статуту, маюць перахоўвацца на мясцох, а копіі гэтых дакумантаў перасылаюцца ў Кансісторыю БАПЦ.

119. Архіў БАПЦ уключаючы япархіі, парафіі, манастыры й місіі перахоўваецца ў Кансісторыі БАПЦ.

**113.** Construction of a new church building is carried out under the supervision of a Building Committee of the Parish, elected at the Parish Meeting, after securing the permission of the Governing Bishop and the consent of the Consistory. Due to great distances between the Parish center and some parishioner settlements, in some distant localities, Registered Chapels may be maintained under Parish authority.

## XXIII DOCUMENTS

**114.** All deeds of purchase and all documents for sale of land or buildings by Consistory, Diocese, Monastery, Mission, or Parish, or Diocese must be legally prepared for by the trustees, as stated in paragraph 29 of this Statute.

**115.** All agreements of a Parish with other organizations must be reconciled in detail with the decisions of the Parish Council and those of the Parish Meetings, and approved by the Governing Bishop of the Diocese.

**116.** All agreements of a Diocesan Administrative Board, Monasteries and Missions with other organizations or units must be in full accord with the decisions of the Diocesan Administrative Board and be approved by the Primate of the BAOC.

**117.** All agreements of the Consistory of the BAOC with other organizations or units must be in full accord with the decisions of the Council ot the BAOC and be aproved by the Primate of the BAOC.

**118.** All original copies of documents prepared by the institutions mentioned in paragraphs 114, 115, 116 and 117 of this Statute must be preserved locally and a copy forwarded to the BAOC Consistory.

**119.** Archives of the BAOC, including those of the Dioceses, Parishes, Monasteries, and Missions, are kept at the BAOC Consistory.

## XXIV. ПЯЧАТКІ

120. Кансісторыя БАПЦ мае сваю круглую пячатку. У першым вонкавым крузе напісана ўрадавай мовай краіны надпіс раўназначны зьместу ў беларускай мове «БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА», які напісаны ў другім крузе. У сярэдзіне пячаткі зьмешчаны Еўфрасіньнеўскі крыж; над крыжам у ўрадавай мове краіны, а пад крыжам у беларускай напісана «Кансісторыя». Гэтую пячатку перахоўвае Япіскап Старшыня Кансісторыі, і толькі ён мае права ўжываць яе.

121. Пячаткі япархіі й парафіі падобныя, як і Кансісторыі, толькі зьмест слова «Кансісторыя» трэба напісаць, для япархіі«(тэрыторыя ЯПАРХІЯ», для парафіі «Парафія Сьв. (імя) у (места). Епархіяльную пячатку перахоўвае й мае права ўжываць яе кіраўнічы япіскап. Парафіяльную пячатку перахоўвае [redacted] мае права ўжываць яе кіраўнічы ярэй.

## XXV. ЗЬМЕНЫ Й ПАПРАЎКІ СТАТУТУ

122. Зьмяніць альбо паправіць гэты статут мае права толькі Сабор БАПЦ. Прапанову зьмены некаторых правілаў гэтага статуту можа падаць Сабор Япіскапаў, Рада БАПЦ ці Епархіяльная Ўправа. Усе прапановы зьмены ці папраўкі гэтага статуту падаюцца Радзе БАПЦ праз Кансісторыю БАПЦ.

123. Рада БАПЦ паклікае да жыцьця Статутовую Камісію з трох асобаў: адзін япіскап і двух знаўцоў царкоўнага права дзеля выпрацаваньня праекту статута, які мае быць зацьверджаны праз Раду БАПЦ [redacted] толькі тады ён падаецца на Сабор БАПЦ на зацьверджньне.

## XXVI. ЛІКВІДАЦЫЯ

124. Ліквідацыя ўстановаў БАПЦ, як манастыра, місіі ці парафіі можа адбыцца толькі за згодаю і ўказаньнем Кансісторыі БАПЦ. У выпадку неабходнасьці ліквідацыі іх альбо пераходзе іх у іншую, не БАПЦ, юрысдыкцыю: уся маёмасьць нерухомая — зямля, сьвятыні й будынкі з усім абсталяваньнем, і рухомая маёмасьць — увесь інвентар, кнігі,

## XXIV. THE SEAL

**120.** The Consistory of the BAOC has its own round seal. The outer circle contains the name "Belarusan Autocephalous Orthodox Church" rendered in the official language of the host country. In the inner circle — the same is written in the Belarusan language and transcription. In the center is the Cross of St. Euphrosyne and above it the word "Consistory" in the official language of the host country, below it — in Belarusan. The seal is in care of the Bishop, the Head of the Consistory, and only he is entitled to use it.

**121.** The seals for a Diocese or a Parish have essentially the same design as that for the Consistory, except that the word "Consistory" is replaced by that of "Diocese (name)" for Diocese, or the words "Parish of Saint (name) in (place)" for a Parish. The Governing Bishop of the Diocese keeps the Diocesan seal and has the right to its use. The Head of Parish preserves and uses the Parish seal.

## XXV. CHANGES OF AND AMENDMENTS TO THESE STATUTES

**122.** Only a General BAOC Convention has the right to change or amend these Statutes. Yet suggestions to that effect may originate with the Council of Bishops, the BAOC Council, or the Diocesan Administrative Council. The proposals for Changes or corrections must be addressed to the BAOC Council and submitted through the Consistory.

**123.** The BAOC Council appoints a Statute Committee, consisting of three persons, a Bishop and two lay experts in Church law, to work out the project of new Statute or all changes or amendments of this Statute, which are first submitted to the BAOC Council for approval. And only then do they come before the General BAOC Convention for final approval.

## XXVI. LIQUIDATION PROCEDURES

**124.** Liquidation of a Monastery, Mission, or Parish can occur only with the consent and order of the Consistory. When the necessity arises to liquidate or to transfer them to a jurisdiction other than that of the BAOC, all real estate property, land, church edifices, and other buildings with furniture and all

дакументы і архіў, і банкавае конта й грошы на руках, — усё, што знаходзілася да гэтага часы пад уладай гэтых установаў — манастыра, місіі ці парафіі, аўтаматычна пераходзяць пад уладу Кансісторыі БАПЦ, як уласнасьць БАПЦ.

125. З хвілінай прыняцьця на Агульным Сходзе пастановы ліквідацыі парафіі, ці пастановы пра ліквідацыю манастыра ці місіі, альбо пры перададзе іх у іншую, не БАПЦ, юрысдыкцыю, у ўстановах, якіх гэта кранае, ніякая асоба ані інстытуцыя ня маюць права рабіць ніякіх дакументаў куплі албо продажы зямлі, сьвятыні ці іншага будынку, ані іншай царкоўнай маёмасьці, ані рабіць дагавору зь іншымі арганізацыямі, згуртаваньнямі, фірмамі і ўстановамі, ані прадаваць альбо забіраць штонебудзь з царкоўнай маёмасьці да свайго ці іншага дому, ані аддаваць штось якой іншай асобе. Кожны, хто парушыць гэтае правіла ёсьць адказным перад судом.

126. Калі б здарылася, што Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква засталася без япіскапа, то яна становіцца асірацелай царквой. У такім выпадку кіраўніцтва БАПЦ перабірае Рада БАПЦ на чале з найстарэйшым векам, албо найбольш уздольненым да адміністраваньня царквою сьвятаром. Гэтае кіраўніцтва ёсьць часовай кіраўнічай установай БАПЦ да скліканьня Надзвычайнага Сабору Бапц, на якім вырашаецца далейшы лёс БАПЦ. Надзвычайны Сабор асірацелай БАПЦ мае быць скліканы напрацягу шасьці месяцаў ад даты асірочаньня.

## XXVII. СІЛА СТАТУТУ

127. Гэты статут быў прыняты на Саборы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы дня 28-га травеня 1972-га году ў сьвятыні Божай Маці Жыровіцкай у Гайланд Парк, Ню Джэрзі, З.Ш.А., і ўвайшоў у сілу з хвілінай падпісаньня яго 1-га студзеня 1976 году. Ён быў выпраўлены на Трэцім Саборы БАПЦ дня 27-га травеня 1984-га году ў сьвятыні Божай Маці Жыровіцкай у Гайланд Парк, Ню Джэрзі, З.Ш.А., і ўваходзіць у сілу з хвілінай яго подпісу дня першага месяца верасьня тысяча дзевяцьсот дзевяцьдзясят сёмага году.

movable inventory, as well as books, documents and archives, bank accounts, and cash money, any and all property that has been under the authority of said institutions, the Mission, Monastery, or Parish, automatically comes under the direct authority of the Consistory as property of the BAOC.

125. When a resolution is passed at the General Meeting to liquidate, or transfer to other than the BAOC jurisdiction, a Mission, Monastery, or Parish, no person or institution within the affected unit has the right to prepare or sign deeds or other documents of purchase or sale of land, church building or other buildings, or any other Church property. Nor may anyone sell or take anything of Church property to his home or anyone else's home, or to give it away to anyone else, nor can anyone in the name of the liquidated unit enter into agreements with other organizations, associations, corporations, or institutions. Anyone breaking this rule is accountable before a court of law.

126. Should it happen that the Belarusan Autocephalous Orthodox Church becomes deprived of its Bishops[, then it attains the status of an Orphaned Church. When this accurs, the BAOC Council, headed by the oldest, or administratively most astute Priest takes over leadership of the BAOC. This temporary leadership remains in charge of all BAOC affairs until the Extraordinary General BAOC Convention can be called which should take place within six months after the date of orphaning.

## XXVII. OPERATION OF THESE STATUTES

127. The principles of these Statutes were aproved by a decision of the General Convention of the Byelorussian Autocephalous Orthodox Church at St. Mary of Zyrovicy Church, Highland Park, N. J. on 28 of May, 1972, and put into operation with the signing of the official copy on the first day of January of the year of Our Lord Nineteen hundred and seventy six. It was amended acording to decision of the third General Convention of the BAOC at St. Mary of

З днём уваходу ў сілу гэтага праўнага статуту БАПЦ, які забавязвае ўсе парафіі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, усе мясцовыя статуты трацяць сілу, калі яны супярэчаць гэтаму статуту.

Сакратар Кансісторыі БАПЦ

Сакратар Сабору БАПЦ




+ Мітрапаліт МІКАЛАЙ
Старшыня Сабору БАПЦ

Zyrovicy Church, Highland Park, N. J. on 27 of May, 1984, and put into operation with the signing of the official copy on the first day of september of the year of Our Lord Nineteen hundred and ninety seven.

On the day of enactment of these official statutes which are uniform for the Byelorussian Autocephalous Orthodox Church as a whole; all local statutes of Parishes and Dioceses are canceled and lose their validity, it they contradict to this Statute.

Secretary BAOC Consistory

Secretay BAOC General Convention




+ Metropolitan MIKALAY
Primate of the BAOC

## Зьмест

## Contents